PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 1 (1964) ГОД XXXIX | БЕЛАСТОК 2 СТУДЗЕНЯ 1994 г. | ЦАНА 4000 зл.

## ЯКІМ БЫЎ...

Якім быў мінулы 1993 год? Здаецца ўсё было нармальна. У свеце некалькі сотцень тысяч людзей памерла ад голаду і хваробаў, пару дзесяткаў тысяч загінула ў мясцовых войнах, але і ў той самы час яшчэ больш іх нарадзілася. У Еўропе гарэла і (гарыць) былая Югаславія — канчаецца там II сусветная вайна, дзе ўсе змагаюцца з усімі. У Расеі тамашнія ўладары яшчэ раз давялі, што ўладу мае той, за кім стаяць танкавыя дывізіі, а першыя дэмакратычныя выбары выцягнулі на палітычную сцэну партыю, якую ўзначальвае нейкі шызафрэнік.

На Беларусі савецкі парадак аказаўся нічым не парушаны, хаця даўно ўжо перастаў існаваць Савецкі Саюз, толькі ўзровень штодзённага жыцця грамадзян знізіўся да ўзроўню Лацінскай Амерыкі.

У Польшчы таксама цяжка было спаткаць задаволеных людзей — наракалі пенсіянеры, настаўнікі, прадпрымальнікі, не гаворачы ўжо пра беспрацоўных. З настальгіяй успаміналі людзі народную ўладу і ў надзеі на яе вяртанне ў верасні прагаласавалі за партыі, якія стваралі ілюзію адновы сацыялістычнага „дабрабыту" і таго парадку, калі ўсё было простае і зразумелае, калі вядома было, што можна рабіць і гаварыць, а чаго нельга. Цяпер няшчасны чалавек сам вымушаны думаць пра сябе, на кожным кроку робіць нейкі выбар — дзе купіць хлеб, малако, вопратку (у кожнай краме іншая цана), дзе і як знайсці працу; селянін думае, дзе і каму прадаць свае прадукты. А тут выглядае на тое, што ў 1994 г. нічога рашуча не зменіцца. Ранейшыя сацыялісты дзейнічаюць пад лозунгам: „Усе сілы, таварышы, для дабра капіталізму!"

А ў нас — у беластоцкім беларускім запаведніку — таксама ўсё было нармальна. У галіне палітыкі беларускае грамадства аказалася традыцыйна вельмі стабільным; свае палітычныя сімпатыі яно не памяняла, а, нават, яшчэ больш замацаваліся тут тыя плыні, якія дзесяткі гадоў карысталіся пашанай нашага электарату. Чарговы адпор атрымалі „беларускія нацыяналісты", якія хацелі змагацца за гаспадарчае развіццё гэтай зямлі, экалогію, школьніцтва на роднай мове, сваю культуру. „Пайшлі вон, — сказалі ім выбаршчыкі, — мы маем сваіх кандыдатаў, вядомых не толькі ў нашых гмінах, але і ў Польшчы, а нават за яе межамі".

Адносіны паміж беларускімі арганізацыямі (узнікалі новыя) былі таксама гумарыстычнымі. Лідэры найбольш заслужанай крычалі безупынна: „ратунку", звяртаючы такім чынам увагу на тое, што нехта іх крыўдзіць, паказваючы нават хто гэта такі. Вядома, дзеячы іншых арганізацыяў. А тыя „іншыя", аслупянелыя, пыталі адзін аднаго: „У чым тут справа, аб чым гэтыя дзядзькі гавораць?" У канцы дайшлі яны да высновы, што пэўна сам факт існавання іншасці ўжо крыўдзіць „заслужаных". Найбольш сумнае, што ўсе спробы дапамагчы „пакрыўджаным" былі імі рашуча адкінуты.

У галіне эканоміі самыя няшчасці. Пабольшыўся лік беспрацоўных, і асоб, страціўшых надзею на будучыню. Няшмала прычын да хвалявання мелі таксама сяляне. Вясной даведаліся, што маюць у хлявах зашмат свіней, летам — у садзе вішняў, восенню — яблык і бульбы, а ў канцы года — што замала прадаюць мяса і яек.

Розум можна было патраціць ад безупынных зменаў. Бо вазьмі сёння здагадайся, ці будзе ў 1994 г. камусьці патрэбна бульба, пшаніца ці малако. Што пасадзіць, што пасеяць, што гадаваць у хляве? Паспрабуй здагадайся, што будзе можна прадаць!

Пра нашу асвету лепш не ўспамінаць, але ў галіне культуры ёсць чым пахваліцца. Столькі было ахвотных у мінулым годзе спяваць і танцаваць, што ў некаторых гмінах нават адпаведнага месца не маглі ім знайсці. Напісалі столькі вершаў, празаічных твораў ды ўсякіх іншых літаратурных жанраў, што нават сам Сакрат Яновіч не паспяваў усё прачытваць.

Проста жыве сабе такі народ рамантыкаў у свеце здамінаваным цынікамі і рэалістамі.

**ВАСІЛЬ КУРГАНОВІЧ**



*У Новым 1994 годзе жадаем нашым Чытачам надзеі на лепшую будучыню, спакою, здароўя і эканамічнай стабільнасці.*

*Сялянам жадаем багатых ураджаяў і прыбыткаў, беспрацоўным — працы, настаўнікам і рабочым — высокай платы, пенсіянерам — цярплівасці, пісьменнікам — плённай творчасці, дзеячам — кансэнсусу, школьнікам — цікавых урокаў, багатым — яшчэ болей грошай, закаханым — узаемнасці ў пачуццях, зайздроснікам — змірэння з лёсам, злаcліўцам — пачуцця гумару.*

*Рэдакцыя „Нівы"*

## ДЗЕ БЫЦЬ ТРАСЦЯНЦЫ

На шляху з Беластока ў Гайнаўку, між Заблудавам і Нарваю, раскінулася Трасцянка. Вёска належыць да Нараўскай гміны. І вось нядаўна Ваяводская ўправа ў Беластоку атрымала прашэнне, падпісанае 47 жыхарамі вёскі, далучыць Трасцянку да гміны Заблудаў. Вестка аб гэтым ускалыхнула сяло. Адлучэнне стала галоўнаю тэмай размоваў і спрэчак.

* * *

Міхал Астроўка, завадатар адлучэння Трасцянкі ад Нарвы, свае перакананне аб неабходнасці выхаду з Нараўскай гміны падмацоўвае адным, але моцным аргументам.

Паводле яго, справа зусім не ў нейкай цязе да Заблудава, але ў жаданні належаць да ЗОЗ у Беластоку (да беластоцкай службы аховы здароўя). Большасць жыхароў вёскі — гэта людзі старыя і лечацца ў Беластоку, а з гэтым бываюць клопаты, паколькі адсылаюць іх у свой ЗОЗ, у Гайнаўку. Далучыць Трасцянку да ЗОЗ у Беластоку немагчыма так доўга, пакуль яна будзе ў Нараўскай гміне, для якой плацяць падаткі. Такім чынам, каб далучыцца за ЗОЗ Беласток, трэба далучыцца да Заблудава.

Уладзімір Міхалюк, лекар у Трасцянцы, лічыць, што меціўшы ў Беласток, можна страціць тое, што ёсць — свой асяродак здароўя. Пакуль што ніхто не збіраецца яго ліквідаваць, але пасля далучэння да гміны Заблудаў не будзе такой гарантыі. Заблудаў ліквідаваў асяродак здароўя ў Фальварках-Тыльвіцкіх, вёсцы такой жа, як і Трасцянка. Паводле доктара Міхалюка важнейшае цяпер — гэта давесці ваду да асяродка здароўя ў Трасцянцы, устанавіць цэнтральнае ацяпленне, адкрыць стаматалагічны кабінет, чымся спрэчкі.

Не згаджаецца з аргументацыяй Міхала Астроўкі войт Нараўскай гміны Ян Тапалянскі. На яго думку беластоцкая служба здароўя сваім абсягам абымае вялікі абшар і спробы падчапіць туды яшчэ якую-небудзь мясцовасць рабіліся ўжо раней. Тады Беласток адказваў, што няма магчымасцяў. Калі б, аднак, такая магчымасць была, заўважыў войт, не сакрэт, што і сама Нарва хацела б належаць да беластоцкай службы здароўя. Змена прыналежнасці да службы аховы здароўя не павінна быць прычынай змены тэрытарыяльнай прыналежнасці — беластоцкі ЗОЗ абымае ўсе прыгарадскія гміны. Трасцянка ў гэтым кантэксце была б нейкай другараднай вёскай, у той час, калі ў Нараўскай гміне Трасцянка па важнасці стаіць побач самой Нарвы. Дзеянне, накіраванае на адлучэнне Трасцянкі ад гміны Нарвы было б сэнсоўным, калі б сама Трасцянка мела памкненні на ўсталяванне ў ёй гміны, бо тады вёска атрымала б вышэйшы статус. Трасцянка з'яўляецца аднак вёскай састарэлай, і найпільнейшая для яе справа — гэта дэмаграфічнае і гаспадарчае адраджэнне. Пачынальнікі ўсіх дзеянняў, пра якія ідзе тут гутарка, не ўсведамляюць сабе, што на самай спра-

☞ *Працяг на стар. 3*

*МІРА ЛУКША*

## НОВЫ ГОД У НОВАЙ ВЁСЦЫ

Ціха падае снег на зямлю у аковах,
На заранныя пожні, на лугі і аблогі,
На чаканне сыноў з недалёкіх вандровак,
На зарослыя сцежкі, на крывыя парогі.
Адляцелі у выраў птушкі ў цёплыя краі,
А пагрэцца да нас прыбылі на зімоўку
З месцаў вечнай зімы вестуны снегаграяў,
Снегападаў і белых мяцеліц сяброўкі.
Выйшла Мурка пад хату белай лапкай па белым.
След зрабіла — ён першы, быццам кветка увесну.
Адкуль бабу Марысю адвялі у магілу,
Толькі Мурка жыве ў гэтай хатцы пад лесам.
Ходзіць есць да суседкі — малака не шкадуюць,
Ловіць мышкі у хаце, ды і ім не пацеха
Жыць у хаце бязлюднай, дзе і есць не гатуюць,
Дзе няма ні скарынкі, ні крупы, ні арэха...
Усё з хаты забралі сваякі і суседкі:
І кажух, і сукенкі, і каструлькі, і лыжкі...
Толькі ложак ніхто не крануў — можа, гідка
Ім капацца было у пасцелі нябожчкі?
Мурка спіць на пярыне, у падушках рыхлівых,
Што паверхам ляжаць, вышываны ў валошкі;
Закапецца ўглыб, і замуркае ткліва:
Яшчэ панінай ласкай пахне халодны ложак.
Каля ложка, ля сценкі, шкілет ёлкі у ваце,
А падлогу іголкі ужо год засцілаюць...
Неспакойная Мурка ціха ходзіць па хаце:
Чаму ж ўнучкі бабулі доўга не прыязджаюць?!
У Каляды, Вялікдзень прыбягалі малыя,
Гоман ўносілі ў хату, весялосць на падворак...
Можа так, як і пташкі, паляцелі у выраў?..
Можа так, як і бабка, ціха выйшлі у морак?..
Новы год ў Новай Вёсцы, як на смех так назваай
Йдзе па чорных заплоццях, па пустынных аборах...
Ці запаліць агеньчык ў сэрцы сыноўскім цьмяны,
Ці пралажыць дарогу з неадлеглых прастораў?

З майго панадворка

## НУ І ДАБАВІЛІ!

Вялікая радасць ахапіла мяне, калі пачуў, што павышаюць нам пенсію. Дастану — думаю — 1.400 тысяч злотых і толькі ж мая Агата — разам будзе амаль тры мільёны. Гэта ж нам, двум старэчам, хопіць на цэлы месяц! Выйшла аднак з гэтага фіга з макам: дасталі толькі па 1.214 тысяч. А думалі ўжо купіць пад свята шампанскае і каўбасы лепшай, а тут яшчэ, як на злосць, і тэлевізар сапсаваўся. Вось табе, бабка, і Юр'еў дзень!

Сяджу я цяпер і думаю: дзе тут справядлівасць? Мой брат, які працаваў 35 гадоў на фабрыцы ў Беластоку, мае 3.600 тысяч злотых пенсіі, а я пасля 50 гадоў працы на гаспадарцы, без святаў і водпускаў, без „трынаццатак", здаўшы сваю гаспадарку дзяржаве, маю ўсяго 1.200 тысяч на рукі. Ці гэта справядліва? Ці той, хто працаваў у бюро або на фабрыцы мае лепшы ці горшы апетыт да яды, што яму хапае на кумпякі, а мне толькі на крывянку? Ён жа меў платныя водпускі, а я мусіў і ў свята, і ў непагоду працаваць на полі ці сенажаці. Ці ўрад і паслы, на якіх мы галасавалі, не бачаць, якая нам дзеецца крыўда? Праўда, не ўсім яна: ёсць гаспадарыпенсіянеры, якія паздавалі свае гаспадаркі на сыноў і далей іх абрабляюць, маюць па 10 кароў і смяюцца з нас, што мы не ўмеем жыць. Ї маюць рацыю.

ДЗЯДЗЬКА ЗАХАР

## СУСЕДАЧКА

Жыву я ў людскім мурашніку. Я, вырваны яшчэ ў дзяцінстве з пушчанскае вёскі і ўпушчаны, дзікае ваўчанё, у яры вуліц вялікага горада, яшчэ доўга арыентаваўся па сонцы і зорках. Жыву цяпер у доме, які перавышае ростам усе акалічныя, так што калі я сяду сабе ў сваёй кватэры ў фатэлі і пагляджу ў вокны, бачу высокія дрэвы, якія перараслі дамы ў росце да сонца, і неба бачу. І адчуваю сябе, быццам мой дом стаіць на полі, і не думаю пра тых, хто тупае нада мною, хто жыве пад маёю падлогаю.

Праўда, усё часцей думаю пра суседку, якая жыве паверх ніжэй. Прыгожая, элегантная, відна што нябедная, нестарая ўдава, рэнцістка. Нядаўна ў нас пасялілася. Перад ёю жыла там маладая сям'я з дзвюма дзяўчынкамі, надта ж шалавілямі. Дзетак чуваць заўсёды было вельмі моцна, асабліва зранку, калі іх сілаю цягнулі ў садок, а я яшчэ грэў пад коўдрай свае старыя косці. Дарэчы, у нашым доме скажаш што гучней, то чуюць гэта сто асоб. Але ніхто не наракае, жывыя ж людзі, чаго глядзець на сябе коса, праўда?.. Здараецца нейкая „імпрэза", святкуюць людзі то Новы, то Стары Новы год. І, як не дзіўна, даволі добра ведаем адзін аднаго ў нашым доме, не так, як бывае ў гарадскіх пустынях, дзе чалавек на чалавеку сядзіць, але нікога не бачыць. Вось, памятаю, прыязджаў да маіх маладых суседзяў бацька з-пад Гарадка, і тады гучней было чуваць беларускую радыёпраграму, бо стары быў глухаваты, і мацней ставіў прыёмнік...

І раптам — новая суседка. Толькі пасялілася, пачаліся сваркі. А то ёй не падабаюцца няветлівыя, хамскія дзеці, а то сабакі са сваімі гаспадарамі, што брэшуць без дайрацыі (вядома, жывёлы), то „руская" музыка, то госці суседзяў, якія невядома чаго прылазяць у наш дом, які павінен быць аазісам адпачынку, а не прытулкам для чужых... Надта ўсхваляваў мяне закід, што ў нашым блоку дзеці невыхаваныя, некультурныя. Яны ж кожнаму хоць крышачку старэйшаму за сябе „дзень добры" кажуць, нават чужым! Мяне нават гэта калісьці смяшыла, як дзеці забяспечваліся — у нашым доме часта мяняюць кватэры, усё паяўляюцца новыя людзі, і на „ўсялякі пажарны выпадак" лепш быць ветлівым... Пачала пані Ванда лаяць дзяцей, абзываць іх, скардзіцца іхнім бацькам, пісаць даносы ў адміністрацыю. І зрабілі ёй малыя суседзі брыдка: разбілі на ейных дзвярах смярдзючае яечка. Вядома, справа непрыемная, але людзі толькі салідарна заўсміхаліся ў вусы, замест абурацца.

У гэтым доме я жыву даволі даўно, і ніхто на мяне не наракаў. Суседзі часта на гарбату да мяне заходзілі, на сушаныя яблычкі, мой улюбёны ласунак. І аднойчы, калі я забег у дзесяты раз у адміністрацыю ў адной тэхнічнай справе (дом сыплецца, усё рамонты ды рамонты...), мне сказалі, што мая мілая суседка піша на мяне кожны тыдзень паперыну. А то ў мяне ўсё сядзяць „рускія", кацапскую музыку слухаюць ад рання да рання, што кватэру ейную я ўжо... сёмы раз заліў, такі хамула — карыстацца, значыць, не ўмею унітазам ды ваннай!.. Быццам у справе залівання то мы ўжо дамаўляліся палюбоўна (таму нікому з адміністрацыі не трэба ісці глядзець шкоду), але несумненна „правучыць трэба грамадзяніна Агафона Буяўку". Дзіўная справа — мой магнітафон не працуе ўжо два гады, радыё ўключаю два разы ў дзень, каб пачуць, што там, пане, у палітыцы і паслухаць беларускае слова, час ад часу наведваюць мяне землякі з вёскі ды з Гайнаўкі ці нейкі беларус з рэспублікі... Раз, калі я быццам „заліў" кватэру пані Ванды, я пабег паглядзець, што я там натварыў і сумленна разлічыцца, суседка не хацела мяне ўпусціць у сваю хату! Цікава!..

Часам вось так думаю — за што мяне Бог пакараў такімі пакутамі? Можа, для мацавання мае душы? Ды не толькі мяне — пані Ванда судзіцца ўжо з дзевяццю асобамі, не толькі з нашага дому, а нават з нейкімі інстытутамі. Сказала мне, што „хтосьці ўрэшце павінен зрабіць парадак з гэтым бардаком!" О, бачыце, няма ў нас парадку ды справядлівасці, і кагосьці такога, як маю суседку, вышэйшая сіла ніспаслала на зямлю. А часу ў яе шмат, вядома — пенсіянерка. А, можа, мне, старому, узяцца за яе больш інтымна?.. Можа, тут справа толькі ў ейных гармонах? Як думаеце, мілыя? Можа, карысць якая будзе, і мне, і суседзям!

АГАФОН БУЯЎКА

## ДЗЕ БЫЦЬ ТРАСЦЯНЦЫ

Працяг са стар. 1

ве дэградуюць сваю мясцовасць. Здаецца ім, што з пераходам у іншую гміну атрымаюць нейкую матэрыяльную падтрымку, але самі не імкнуцца да вырашэння праблем мясцовасці, бо ўсё ім лёгка даставалася — Трасцянка ўсё ж распалажана на шляху.

Адмоўна да адлучэння ад Нарвы ставіцца таксама дырэктар школы ў Трасцянцы, Багдан Назарка. У школе вучацца 53 школьнікі з Трасцянкі, Пухлаў, Сацоў, Бялкоў, Анцутаў і Жыўкова (што ў Заблудаўскай гміне). Займаецца імі 7 настаўнікаў. Будынак школы вельмі добры, адрамантаваны нядаўна коштам 30 млн. злотых. Гміна Нарва адна з першых пераняла школьніцтва ў сваё распараджэнне і заўжды мае грошы на яго патрэбы: рамонты, паліва, дапаможнікі. Настаўнікі тэрмінова атрымоўваюць зарплату, ёсць грошы на сацыяльную дзейнасць, і камандзіровачныя для тых, якія павышаюць свае прафесійныя веды.

Спадар Назарка ведае, што школу чакае ў будучыні ліквідацыя, але лічыць, што далучэнне да Заблудава непатрэбна паскорыць гэты працэс. Будзе гэта са шкодай для вучняў, якія ў Трасцянцы, з прычыны сваёй нешматлікасці, практычна навучаюцца індывідуальна. Некаторыя з іх маглі б не даць рады, калі перанесці іх раптоўна ў іншае асяроддзе. Большасць бацькоў падтрымоўвае пазіцыю дырэктара.

Бурмістр Заблудава, Кшыштаф Хшчановіч, лічыць, што справу павінны вырашыць перш за ўсё жыхары Трасцянкі між сабою. Апрача гэтага патрэбная пастанова наравўскай Гміннай рады. Толькі тады можна будзе арганізаваць грамадскую кансультацыю ў Заблудаўскай гміне. У справе далучэння Трасцянкі мусілі б выказаць сваю згоду суседнія вясковыя самаўрады. Бурмістр мяркуе, што далучэнне Трасцянкі ні ў чым не зменіць сітуацыі як у гміне Заблудаў, так і ў самой Трасцянцы. Галоўную прычыну спробы далучэння Трасцянкі якраз да Заблудава бачыць ён у тым, што Заблудаў ляжыць па дарозе ў Беласток, з якім у Трасцянкі сапраўдныя (сем'і, ахова здароўя) сувязі.

* * *

У суботу 11 снежня ў трасцяніцкай школе адбыўся вясковы сход, які меў вырашыць: адлучыцца Трасцянцы ад Нарвы ці не? Сход атрымаўся мнагалюдны. Як заўважыў доктар Кучынскі — старшыня Гміннай рады, у ягонай Ласінцы ніколі не сабралася столькі людзей, каб сварыцца. Сход пачаўся спакойна, але спакой скончыўся, калі пачалося зачытванне прозвішчаў тых, якія падпісаліся пад вядомым прашэннем. Аказалася, што частка падпісаных ніколі гэтага дакумента не падпісвала. Паасобныя крыкі праходзяць у няспынны гул, калі да голасу прабуюць дайсці прыхільнікі адлучэння. Міхал Астроўка хоча зачытаць яшчэ іншыя подпісы, сабраныя прыхільнікі адлучэння, але зала яму не дазваляе. Гоман такі, што немагчыма разабрацца, хто што і да каго крычыць. Нарэшце прабіваецца крык: „Хто за Нарваю, выходзім!" і аграмадная большасць тоўпіцца ля дзвярэй. Жменька прыхільнікаў Заблудава збіраецца пад вокнамі. Праз некалькі хвілін на сярэдзіне залы застаецца толькі нейтральны Іван Амельянюк, малады прадпрымальнік, уладальнік бетоннага завода. Яму было б лягчэй пад Беластокам, бо цяпер ЗУС (райсабес) у Гайнаўцы, Скарбовая (казначэйская) управа — у Бельску, а так усё было б у адным месцы. Але наогул для Івана Амельянюка не так гэта і важна. Усё-такі і ён мусіць пакінуць залу, на якой застаюцца прыхільнікі адлучэння.

Паводле спіса прысутных, на зале была 91 асоба ўпаўнаважаная да галасавання. Цяпер засталося 11 чалавек — якія цвёрда стаяць за адлучэннем. Яны прыбітыя нечаканым адступніцтвам іх ранейшых аднадумцаў, але рашаюць не здавацца.

* * *

Ходзячы па людзях у Трасцянцы, многа пачуў я ад іх і пра іх. Вёска набрыняла жалем і крыўдаю. Усё-такі, нельга зводзіць праблему да звычайнай вясковай сваркі.

Трасцянка была калісьці адной з самых вялікіх вёсак на Беласточчыне. Славілася байкасцю сваіх хлопцаў. Калі ў 1926 г. Грамада арганізавала свой з'езд, які меўся адбыцца ў Трасцянцы, было вырашана правесці яго ў Стараберазове. Арганізатары пабаяліся, што трасцяне не здадуцца паліцыі і пальецца кроў.

Пасля вайны пачаўся адыход моладзі ў гарады. Трасцянку праглынуў Беласток. У пачатку пяцідзесятых гадоў у Трасцянцы было больш за тры сотні гаспадароў. На адным панадворку стаялі часта дзве хаты. Цяпер гаспадароў няма і трыццаці. Астатнія — гэта пенсіянеры. Дзеці трасцянскіх пенсіянераў жывуць у Беластоку. Адзін з гэтых, што засталіся ў зале падчас галасавання, Мікалай Гаўрылюк, сказаў мне: „Я ж гэтых дзяцей гадаваў, дык да каго мне звярнуцца. У Гайнаўку дзецям далёка".

З другога боку, старшыня вясковага самаўрада, Уладзімір Максымчук, не можа пагадзіцца, што старыя хочуць „маладых піхнуць у Заблудаў на пагібель; там не знаем нават абыходак". І гэта таксама зразумела. Розніца між Нарваю і Заблудавам не толькі ў кіламетрах. Для Нарвы Трасцянка важная, хаця б сваёй велічынёю, у Нарве ўсе урадніку, уключна з войтам, гавораць „па-свойму". Заблудаў — гэта большасцю польска-каталіцкая гміна, а мястэчка жыве зусім іншымі, чымсьці Трасцянка, праблемамі.

Спрэчка аб тым, куды Трасцянцы падаць, адбірае ў яе жыхароў рэшткі жыццёвай энергіі, замінае рашаць праблемы, з якімі можна справіцца на месцы. Заглохла справа пабудовы водаправода, чакае змілавання гідрафор і іншае абсталяванне для вясковага асяродка здароўя, які служыць жыхарам вёскі на штодзень. Не хочацца, каб збыліся словы аднаго з пажылых жыхароў Трасцянкі, які ўсю спрэчку наконт адлучэння — далучэння пракаментаваў такім чынам: „Як так далей будзем паміраць, па два ў дзень, хутка нас усіх не да Заблудава, але да могілак далучаць".

АЛЕГ ЛАТЫШОНАК

# Калі ўзнікла Беларусь?

Здагадкамі, адкуль узялася назва „Беларусь" і што яна сапраўды абазначае, можна напоўніць не адзін том. Навукоўцы і аматары выводзілі слова „белая" ад вопраткі жыхароў нашай зямлі, ад яе заснежаных палёў, і нават ад белых бярозаў. Прыводзіліся ў дапамогу не толькі славянскія, але і цюркскія мовы, у якіх белы колер азначае „захад".

Сёння ўжо можна з даволі вялікай пэўнасцю сцвердзіць, што назва „Белая Русь" мае перш за ўсё ідэйны характар. Белы колер у славянскіх (і наогул у індаеўрапейскіх мовах) з'яўляецца сімвалам вышэйшага, станоўчага, боскага пачатку, удачы, шчасця. Часта заступае паняцці „вялікі, галоўны". Праз сувязь з чысцінёю набывае не толькі палітычны, але і рэлігійны змест.

Пра тое, што назва „Белая Русь" мела ідэйны характар, сведчаць красамоўна спробы прысвоіць яе маскоўскаю дзяржавай у час, калі рабіла яна першыя крокі на шляху да магутнасці. Усё-такі, назва „Белая Русь" занадта ўжо моцна была звязана з сённяшняй Беларуссю, і маскалі мусілі задаволіцца названнем сваёй дзяржавы Вялікаю Руссю.

Апрача пытання, што азначае слова „белая" ў назве Беларусі, існуе таксама праблема прасторы і часу яго ўзнікнення. Дзякуючы знаходцы г.зв. Дублінскага рукапісу (знойдзенага ў сталіцы Ірландыі Дубліне), напісанага на лацінскай мове „Апісання зямель", можам спакусіцца па-новаму разгледзець гэтую праблему.

„Апісанне" з'яўляецца ананімным творам каталіцкага місіянера, які быў пры двары Міндоўга. Як вядома, Міндоўг хрысціўся ў заходнім абрадзе ў 1251 г., ды загінуў у 1263 г. Два гады раней ён адступіў ад хрысціянства. Таму гады 1251—1261 вызначаюць час, калі пісаўся дублінскі рукапіс.

„Апісанне" важнае для нас перш за ўсё тым, што ўпершыню ў гісторыі было ў ім запісаная назва „Белая Русь". Яго ананімны аўтар успамінае свайго сябра Вайслана (магчыма Вайслава), які „прамаўляе слова Божае ў Белай Русі". Вайслан рабіў гэта так удала, што нейкі карэльскі купец пачаў намаўляць яго, каб той падаўся ў Карэлію, прадбачваючы вялікія поспехі Вайслана ў навярстанні ў хрысціянства карэлаў-язычнікаў.

Польскі даследчык З. Вайтковяк, які першым спрабаваў вызначыць месцазнаходжанне „Белай Русі" згодна з апісаннем, прыйшоў да даволі дзіўных высноваў: што „Белая Русь" быццам бы знаходзілася ў той час у зусім іншым месцы, чым цяпер. На яго думку, паколькі каталіцкія місіянеры не навярталі праваслаўных, Белая Русь мусіла быць нейкай язычніцкай краінай на мяжы з Карэліяй. Невядома, скуль Вайтковяк набраў упэўненасці, што Белая Русь знаходзілася ў іншым месцы, калі ніхто і нідзе па-за „Апісаннем" яе не ўспамінае. Цікава таксама, якім чынам такі прызнаны гісторык як З. Вайтковяк забыўся, што ўжо на пачатку XI ст. прысланы палякамі каталіцкі калабжэгскі біскуп Райнберн прабаваў навярнуць у лацінства тураўскага князя Святаполка. Гэта ж было ў сённяшняй Беларусі. Высновы Вайтковяка прыводжу тут толькі таму, што чытач можа сустрэцца з падобнага роду „аргументамі".

Усё, што знаходзім у „Апісанні", дык тое, што Вайслан навучаў у Белай Русі і быў таварышам місіянера, які быў пры двары Міндоўга. Як каталіцкі місіянер, мог дзейнічаць на гэтай Русі, якая знаходзілася пад уладай каталіцкага літоўскага караля. Гэта была сённяшняя Беларусь. Мог навяртаць праваслаўных, але не мусіў. У дзяржаве Міндоўга жыла процьма язычнікаў, якіх можна было хрысціць. Гэта былі літоўцы. Зрэшты, ананімны аўтар „Апісання" сцвярджае, што дзейнічаў ён разам са сваімі сябрамі сярод літоўцаў і яцвягаў, якіх лёгка было навяртаць, бо ва ўсіх іх былі хрысціянскія мамкі. Гэта паказвае, што яны дзейнічалі сярод літоўскай знаці, якая жыла не толькі на сваёй бацькаўшчыне, але і на праваслаўнай Русі.

Каб сустрэць карэльскага купца, не трэба было падавацца на мяжу Карэліі. Купцы, сыходзячы са спецыфікі прафесіі, не менш рухавыя за місіянераў.

У гэты самы час прускія купцы мелі сваю вуліцу ў Ноўгарадзе Вялікім, землі якога сапраўды межавалі з Карэліяй. Таксама добра карэльскі купец мог знайсціся ў Беларусі. Такім чынам, Вайслану, каб навучаць язычнікаў і сустрэць карэльскага купца, не трэба было пакідаць стольнага Навагрудка. З гэтага вынікае, што ў часы Міндоўга Беларусь знаходзілася дакладна ў гэтым самым месцы, што і цяпер.

У „Апісанні" назва „Белая Русь" мае проста геаграфічны змест, які не патрабуе ніякіх тлумачэнняў. З гэтага відаць, што ў часы Міндоўга яна была ўжо добра замацаваная. Застаецца знайсці ўладара, настолькі магутнага, каб назваць сваю краіну „Белай Руссю". Як заўважыў Генадзь Сагановіч, найбольш раннія факты выкарыстання тэрміна „Белая Русь" звязаны з заходнімі крыніцамі, напісанымі лацінскім шрыфтам. Гэтае сцвярджэнне прывяло Сагановіча да высновы, што назва „Белая Русь" нададзеная чужынцамі.

На наш погляд, апошняе трэба лічыць памылковым. Лацінннікі — неславяне (а такія першыя згадваюць пра існаванне Белай Русі), не маглі ведаць ідэйнага значэння слова „белы". Назву „Белая Русь" мусілі пачуць ад тубыльцаў.

Першым магутным рускім князем, якога сустрэлі каталіцкія місіянеры, быў полацкі rex Woldemar. Як я ўжо пісаў, можна яго лічыць тоесным з Уладзімірам Валадаравічам Менскім (глядзі: „Ніва" н-р 50 ад 12 снежня 1993 г.). Ягоныя ўладанні распасціраліся ад узбярэжжа Балтыйскага мора да сярэдняга Буга. Гэта дазваляла яму выступіць перад лацінннікамі, як гаспадару „Белай Русі", г.зн. магутнай і самастойнай рускай дзяржавы. Што больш, Уладзімір быў князем, якога ўладанні не памяшчаліся ў старых падзелах на крывіцкія і драгавіцкія землі, або Полацкае і Тураўскае княствы. Новая дзяржава патрабавала новай назвы. Цікава, што якраз у той час з'яўляецца і Малая Русь (Галіцка-Уладзімірскае княства). Відаць, беларуская і украінская (маларуская) нацыі ствараліся паралельна.

У наступных стагоддзях розныя расейскія ўладары спрабавалі выступіць як „белыя цары", гаспадары „Белай Русі", але Уладзімір зрабіў гэта першы і прывіў усяму заходняму свету пераканнанне, што „Белая Русь" знаходзіцца менавіта між Дзвіною, Дняпром, Прыпяццю і Бугам. Дзякуючы яму, дасталася нам самае пажаданае ўсімі русінамі названне — „белыя", беларусы.

Падсумоўваючы вынікі нашых разважанняў, сцвярджаем: Беларусь узнікла на пераломе XII і XIII стагоддзяў вакол Менска. Яе ўзнікненне было завяршэннем працэсу набліжэння крывіцкіх і драгавіцкіх зямель, які доўжыўся ўсё XII стагоддзе.

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

---

*ДЗМІТРЫЙ ШАТЫЛОВІЧ*

# УЦЁКІ

## 1. Ноч перад уцёкамі

Ляжу я на гнілой саломе ў агромністай пуні і не магу заснуць. З усіх бакоў даносіцца храп змучаных і галодных людзей. Колькі іх тут? Можа чатырыста, а, можа, і пяцьсот. Усе падзеленыя на групы, па сорак чалавек. Кожная група мае свайго важатага. Тут спяць украінцы, рускія, беларусы, палякі, літоўцы, латышы, і нават татары. Як калоды дрэў ляжаць яны адзін ля аднаго ў бруднай саломе. Тут так цесна, што цяжка выпрастаць ногі. Паспрабуй у цемры прабрацца да дзвярэй за сваёй патрэбай! Напэўна наступіш на каго-колечы і будзе крык з лаянкай. Але цяпер ціха, толькі за сцяной скрыгоча снег пад ботамі вартавога. Ужо палавіна лістапада 1944 года. Сцягнулі нас тут з розных канцоў Усходняй Прусіі капаць процітанкавыя акопы. Нас забралі ад нашых баўэраў быццам толькі на шэсць тыдняў, а ўжо прайшло тры месяцы, а канца не відаць. Схапілі ўжо першыя маразы, а нам нават намёку не даюць, што нас адпусцяць. Фронт затрымаўся дзесь ля межаў Усходняй Прусіі і стаіць. Смялейшыя пачалі ўжо ўцякаць, але рэдка каму гэта ўдалося. Многіх злавілі дзесьці па дарозе, моцна збілі, прыгналі назад і праз тры дні і ночы не давалі ім есці. Але былі і такія, што больш сюды не вярнуліся. Відаць, уцячы ім удалося. Знаходзімся мы паблізу Растэнбурга (цяпер Кэнтшын), пяць кіламетраў на ўсход ад горада. Калі днём ляцяць высока савецкія самалёты, то дзесьці з лесу, кіламетраў з 10 ад нас, адзываецца моцная кананада зенітнай артылерыі. Неба цямнее ад дыму, разарваўшыхся снарадаў. Не збілі аднак ніводнага самалёта, якія толькі праляталі і ніколі не бамбілі гнёзд зенітнай артылерыі (мы тады і не ведалі, што там кватэра Гітлера).

Сагналі сюды дзесяткі тысяч людзей. Такіх запоўненых пунь тут некалькі дзесяткаў. Кожны ранак будзяць нас а шостай гадзіне, даюць напіцца чорнай горкай жытняй кавы і гоняць пад канвоем, як злачынцаў, кіламетраў тры-чатыры ў поле, на месца працы. Там трымаюць нас пакуль не сцямнее і тады вядуць нас назад, да гэтай праклятай пуні. Тут даюць нам паўсудка рэдкага супу з бручкі, 250 грамаў чорнага, з вотруб'ем, хлеба і чайную лыжачку маргарыну. Кожны з'ядае ўсю порцыю адразу і ўвесь наступны дзень ходзіць галодны. Рэдка хто знаходзіў ў сабе сілу волі, каб аставіць кавалачак хлеба на наступны дзень. Бо хто ведае, ці ў час сну нехта яго не ўкрадзе.

З аднаго боку ля мяне ляжыць Валянцін Казлоўскі, беларус з-пад Беластока, з вёскі каля Гарадка. Высокі, стройны і вясёлы мужчына, тры гады старэйшы за мяне. Прывезлі яго ў вёску Помейрэн месяцаў пяць пазней чым мяне, ды паспеў ён ужо пабываць у нямецкай турме ў Кёнігсбергу, абвінавачаны быццам бы ў сувязях з партызанамі на Беласточчыне. Нехта, відаць, на яго данёс. Насуперак катаванням ён да нічога не прызнаўся і жандармерыя, не маючы доказаў, адпусціла яго назад да баўэра. Памятаю, як нечакана ён з'явіўся, быццам дух нейкі, з астрыжанай галавой і худы, як шкілет. Як толькі паправіўся, то ўзялі яго разам са мной і вывезлі капаць траншэі.

З другога боку спіць Пэтэр, літовец з вёскі з-над даваеннай польска-літоўскай граніцы. Ён невысокі, але моцны і адважны хлопец, годам старэйшы за Валянціна. Ён разумеў па-беларуску, але гаварыў па-польску з выразным літоўскім акцэнтам. Яго прывезлі ў Помейрэн у 1942 г. да суседняга баўэра.

З вёскі Помейрэн бліз Гайльсберга на акопы ўзялі нас толькі трох і вось мы ўвесь час разам трымаемся, памагаем адзін аднаму як толькі можна. Раней, калі нас так не пільнавалі, мы вырываліся ноччу далёка ў поле, капалі бульбу, раскладвалі вогнішча і варылі яе. І доўгі час нам гэта ўдавалася. Некалькі разоў, калі мы варылі бульбу, бачылі, як далёка ў небе загараліся ліхтары скінутыя з самалёта, як доўга гарэлі чырвоным агнём, паволі ападаючы на парашутах на зямлю. Часам нават чулі тады далёкія гукі выбухаў бомб. Нас ганялі па многіх мясцовасцях Прусіі і вось толькі тры тыдні таму назад прыгналі нас сюды і пасялілі ў пуні. На другі дзень усіх абселі вошы. Відаць, у гэтай гнілой саломе перад намі таксама спалі людзі. Не было магчымасці зліквідаваць іх. Тут не было нават вады і мыліся мы ранкам чорнай кавай. Гэты брак элементарнай гігіены, вошы, голад, холад і зверскія адносіны па-рознаму ўплывалі на людзей. Некаторыя псіхічна ламаліся, слабелі, у іншых выяўляліся звярыныя адносіны да калег; адны кралі, другія даносілі немцам. Калі група прыходзіла ля буракоў, многія кідаліся на гэтае поле, вырывалі буракі і сырыя елі. Немцы тады іх ганялі, білі, але голад перамагаў страх перад здзекамі. Нядаўна немцы пачалі рабіць спісы працаўнікоў. Мы зразумелі, што яны загубілі старыя, і мы выкарысталі сітуацыю і падалі ім фальшывыя даныя аб сабе, змянілі нашы прозвішчы і мясцовасці, з якіх нас узялі на акопы. І тады радзілася ў нас думка аб уцёках. Уцякаць у бок фронту было небяспечна, бо ён стаяў на месцы. Трэба ўцякаць да нашых баўэраў у Помейрэн. Хоць і там няволя, але нельга яе параўнаць з гэтай. Там лягчэй можна дачакацца вызвалення. Якраз нам заплацілі за трохмесячную працу па 200 марак. За іх і так цяжка было нешта купіць, але на дарогу могуць спатрэбіцца. Акрамя таго, Валянцін атрымаў ад сваёй дваюраднай сястры пачку з хлебам, салам і мясам. Але вось сённяшняя спроба ўцячы была няўдачнай. Калі мы вярнуліся з працы, хутка ўзялі наш паёк і пайшлі за чамаданамі, то Пэтэр заўважыў, што ў яго нехта ўкраў боты з халявамі. Без ботаў ён не хацеў ісці. Мы прыгразілі злодзею голасна, што калі ён не падкіне ботаў, то папросім немцаў, каб зрабілі вобыск. Боты — не іголка, і калі іх знойдуць немцы, то злодзей будзе пакараны. Мы выйшлі. Калі вярнуліся ў пуню злодзей падкінуў боты, але ўцякаць ужо было позна. Немцы загадалі ўсім ставіцца на пералік. Пасля немцы загналі нас усіх у пуню і паставілі вартавога, а на дзверы залажылі замок. Уцёкі трэба адлажыць на заўтрашні вечар. Я абдумваю справу і не магу заснуць.

*(працяг будзе)*

# НАШЫ ДЗЕЦІ ПРА НАС

*У Гайнаўскім ліцэі на ўроку беларускай мовы вучні трэцяга класа мелі нявінную, здавалася б, тэму — „Мая сям'я". Што само па сабе і нянова, працы і ацэнкі іх былі вельмі розныя. Уразіла, аднак мяне ў гэтых працах тое, як востра бачаць нашы дзеці сваіх найбліжэйшых, а ў асноўным нас, бацькоў. Колькі ж было адложана ў іх як цеплыні-пяшчоты ў наш адрас, столькі ж і крыўды-горычы. Гэта праўда, што найсуравейшымі нашымі суддзямі з'яўляюцца нашы дзеці, бо яны наскрозь нас бачаць. І зусім няпраўда, што ва ўсім мы, бацькі, маем рацыю, бо мы іх гадуем і для іх жа дабра стараемся.*

*А вось фрагменты прац з арыгінальнай вучнёўскай лексікай.*

**В. САКОЎСКІ**

* * *

Маю маму завуць Оля. Ёй 45 гадоў. Яна працуе на заводзе. Мая матуля нізкага росту. У яе сінія вочы і валасы карычневага колеру. Яна вельмі любіць парадак. З вялікай ахвотай усім дапамагае. Яна вельмі добрая, шчырая, зычлівая, мілая для ўсіх і заўсёды цярплівая для нас. І за гэта я вельмі люблю яе. Маці мая не мае лёгкага жыцця, але нягледзячы на гэта, яна пераносіць усё цярпліва. Прабачае, калі мы прычыняем ёй прыкрасць. Заўсёды пра нас клапоціцца. Хоча, каб мы мелі лёгкае жыццё. Яна многа працуе. Усе абавязкі спачываюць на яе плячах. Мая мама ніколі не скардзіцца на свой лёс. У яе клопаты са здароўем. Бываюць такія моманты, калі яна не можа перанесці болю. Як сягаю памяццю, яна заўсёды была з намі. Усё сваё жыццё прысвячае выхаванню нас, дзяцей.

Майго бацьку завуць Косця. Яму 48 год. Ён таксама працуе на заводзе. Гэта чалавек сярэдняга росту. У яго сінія вочы і валасы чорнага колеру. Мой бацька належыць да людзей, якія нічога не робяць, любяць толькі есці, спаць, аглядаць тэлевізар або чытаць некалькі разоў тую самую газету. Ёсць чалавекам, які любіць вельмі загадваць іншым.

Мой брат — працавіты хлопец, але не любіць вучыцца. Зробіць усё, каб толькі не сядаць да ўрокаў. Заўсёды любіць штосьці рабіць, напрыклад, рубае дровы ці капае агарод або едзе памагаць бабулі і дзядулі на вёсцы. Я вельмі люблю свайго брата, хаця мы і часта сварымся.

Да нашай сям'і залічаем таксама кошку. Наша кошка гэта нязвыклы звярок. Мае доўгую чорную шэрсць, вялікія вочы і пушысты хвост. Кошка ўносіць у жыццё кожнага з нас многа радасці. Яна можа змяніць сумную хвіліну ў вясёлую.

Я вельмі люблю сваю сям'ю.

* * *

Мае бацькі вельмі добрыя, стараюцца, каб я меў добрыя ўмовы да жыцця і вучобы. Яны цікавяцца маёй вучобай і кожны дзень мы гутарым, як я правёў заняткі ў школе. Стараюцца, каб я ездзіў на экскурсіі і таму нядаўна я быў у Варшаве, а на канікулах ездзіў да сястры ў Лондан. Каб у вольны час я мог займацца сваімі любімымі заняткамі, напрыклад, лоўляй рыбы, выкапалі мне сажалку, дзе магу даглядаць і лавіць рыбу. Мая сям'я згодная, бацькі становяць для мяне ўзор у жыцці і ўчынках. Я хачу быць такім, як мой тата і хачу вывучыць яго прафесію. Вельмі люблю, калі прыходзіць свята, прыязджае брат і прыходзіць бабуля, якая жыве ў нашай вёсцы. Мама стараецца захаваць старыя абрады.

Калі ў сваім жыцці завяду сям'ю, хачу, каб яна была такой, якую я маю.

* * *

Мой меншы брат мае сем гадоў, і я яго вельмі люблю. Таму, што ён наймалодшы, у яго заўсёды ёсць салодкія смакавітасці, і таму аплачваецца часам яму ўступіць. Я так і паступаю.

Мой другі брат ужо ў 8 класе. У яго цяпер вельмі многа навукі, таму што рыхтуецца ён да ўступных экзаменаў і я яму дапамагаю.

Мая мама працуе ў магазіне. У яе заўсёды вельмі многа працы. Калі мама вяртаецца дадому, яшчэ тут чакае яе цяжкая штодзённая работа. Мы з усіх сіл памагаем ёй, але і так астаецца на яе галаве многа абавязкаў. Мая мама вельмі добры і шчыры чалавек і заўсёды магу да яе звярнуцца са сваімі праблемамі, яна заўсёды мне дапамагае і служыць парадамі.

Мой тата працуе шафёрам і па такой цаладнёвай працы дадому вяртаецца вельмі змучаны. У яго таксама многа абавязкаў. Я люблю сваю сям'ю і цешуся, калі ўсе мы разам.

* * *

Мая сям'я вялікая, у ёй налічваецца пяць асоб. У мяне ёсць адзін брат, адна сястра і да таго яшчэ адзін тата і адна мама.

Мой тата працуе ў паліцыі, ён ловіць зладзеяў і іншых злачынцаў і саджае іх у турму.

Мая мама бібліятэкарша. Яна таксама ловіць злачынцаў, каторыя знішчаюць кніжкі і газеты, толькі яна не саджае іх у турму за гэтыя ліхадзействы.

Мой старэйшы брат вучыцца ў чацвёртым класе. Ён маньяк баскетбола і страляння са стрэльбы (ужо раз падстрэліў сястру). Думаю, што ад страляння ён паводзіць сябе як падстрэлены.

Мая сястра вельмі часта аглядае рэкламы, якія заўсёды ёй путаюцца. Напрыклад, адзін раз перад снеданнем, яна так сказала маме: „Bo gdy cię chwyci głód, oferta ZREMBU zawsze na czasie". У зубнога ўрача, сядаючы на крэсла, яна крычыць: „Mamo! Nie trzeba borować!"

У маёй сям'і пануе вельмі вясёлая атмасфера і я не хацеў бы нарадзіцца ў іншым доме.

* * *

Мая мама цудоўны чалавек. Ва ўсім мне дапаможа і хоча, каб маё жыццё было шчаслівае. Я вельмі люблю маму і думаю, што гэта любоў узаемная.

Бацька мой зусім іншы чалавек. Ён цяжка працуе і хоча, каб мы яму дапамагалі. Аднак ён не разумее мяне, маіх праблемаў і клопатаў. Мне нават здаецца, што ён не хоча іх разумець. Ён заўсёды трактуе мяне як дзіця. У некаторых момантах ён вельмі дражніць мяне, але я не забываю, што гэта мой бацька.

* * *

Мая сям'я вялікая і, можна сказаць, пажылая. Як я даведалася, вестка аб тым, што маю нарадзіцца я, была вялікім і нямілым сюрпрызам у сям'і — мая мама мела тады ўжо сорак гадоў.

Такім чынам я заўсёды з'яўлялася маленькай у сям'і і мае сямейнікі ніколі не забываюць даваць мне залатыя, на іх думку, парады. На шчасце мае сёстры павыходзілі замуж, нарадзілі дзяцей і мае сямейнікі адчапіліся ад мяне, а заняліся меншымі.

* * *

Мой бацька вельмі суровы чалавек. Ён голасна крычыць, але без эфектаў. Вельмі хоча, каб я яго слухалася, але мне гэта не адпавядае. Ён усім хоча паказаць, што ён вельмі працавіты, але я яго распрацаваў і ведаю, што ён абібок. Рад не рад, але і я такі самы.

Мая мама вельмі дабрадушная кабета і за гэта я яе люблю і цаню. Яна таксама мяне любіць. Я думаю, што мне не можна верыць, бо я люблю ашукваць.

* * *

Мая мама, Зінаіда, якая ўжо шмат жыцця пержыла. Яна ведае жыццё, як мала хто. Ёй 54 гады. Яна заўсёды думала толькі пра нас — сваіх дочак, заўсёды пільнавала, каб мы мелі добрае жыццё. Яна не хоча, каб нашае жыццё было такое ж цяжкое, як яе, каб ніколі не прыйшлося нам жыць у час вайны.

Гэта жанчына сур'ёзная, заўсёды пагаворыць з намі, паможа ў цяжкіх хвілінах.

☞ *Працяг на стар. 14*

# УСЁ ЖЫВЕМ І ЖЫВЕМ

**У Пасынках**

вучацца дзеці з Трашчоткаў, Мякішаў, Локніцы, Сакоў, Зубава, Піліпкаў і мясцовыя. Усяго толькі 49 вучняў. Усе школьнікі вывучаюць праваслаўную рэлігію. Да нядаўна ўсе дзеткі вучыліся беларускай мове.

— На жаль, бацькі некаторых вучняў просяць, каб вызвалiць іх дзяцей. Гэта наогул вельмі слабыя вучні, — паясняе дырэктар школы Яўген Хількевіч.

У школе няма беларусіста.

— Настаўнікі ў нас — універсальныя, — кажа дырэктар. — Беларускую мову навучае тут 2 асобы, адзін настаўнік у класах II—VI, другі ў VII—VIII. Ужо пяты год школа ставіць сабе пытанне:

**Што далей?**

Дзякуючы вучням з Локніцы, якія да гэтай пары вучыліся ў Крывой, у школе 49 вучняў. Без іх было б недзе 30 дзяцей і школа магла б ужо не існаваць. Улады маюць права ліквідаваць школу, калі няма ў ёй 56 вучняў.

— Так што мы ўвесь час знаходзімся пад пагрозай ліквідацыі. Але ўсё неяк жывем і жывем. Як будзе далей? Цяжка сказаць. Маглі б нас далучыць да Бельска, Аўгустова ці Храбалоў. Там таксама былі б праблемы, бо нашыя школы не прыстасаваныя да большай колькасці вучняў. Ці прыйдуць новыя вучні? Са статыстыкі вынікае, што дзеткі тут нараджаюцца. Але далей выходзіць так, што толькі тут нараджаюцца — у дзедкі і бабулі — а пазней пераязджаюць у горад. Цяпер, напрыклад, мае быць 9 вучняў шасцігодкаў. Гэта многа як на нашыя ўмовы. Але ж не ведаем, колькі іх сапраўды прыйдзе. Ёсць такія ў нас вёскі, напрыклад Кожына, дзе не нарадзілася ніводнае дзіця, — кажа дырэктар школы, Яўген Хількевіч.

10 гадоў таму ў школе былі 124 вучні. Працавала 15 настаўнікаў.

**Нашыя цяжкасці**

такія, як і ў цэлай польскай асвеце. Маем праблемы з вуглем, рамонтамі, санітарнымі ўмовамі. Школе дапамагае войт Бельскай гміны. Цяжка сказаць, ці будзе нейкая паправа, калі школы апынуцца у распараджэнні гмінаў. Тыя цяжкасці, мабыць, будуць і далей, — сцвярджаюць настаўнікі. — Усе мы ведаем, што асвета многа каштуе.

У школе

**працуюць спецыялісты:**

магістр хіміі (дырэктар), магістр біялогіі, два магістры русісты, два настаўнікі пасля СНа і адзін настаўнік — выпускнік педагагічнага ліцэя. Катэхетам працуе дзяк з мясцовай парафіі. Дырэктар хацеў бы прыняць на працу беларусіста, але ва ўмовах няпэўнасці існавання школы гэта немагчыма. У Пасынках працаваў выпускнік беларускай філалогіі, але калі зрабіў сабе яшчэ спецыялізацыю па пачатковым навучанню, адышоў у горад. Амаль усе настаўнікі даязджаюць з Бельска. Гэта не перашкаджае дырэктару Хількевічу гаварыць з мясцовымі людзьмі „па-свойму". І за гэта яго сяляне хваляць.

**Не хочуць піць малака**

вясковыя дзеці. Калі прыціснуў мароз, вучні дамагаліся гарачага чаю. Купляюць таксама свежыя булкі. Да малака пераканаць іх цяжка. У школе няма санітарных умоў, каб рыхтаваць абеды. Вучні сяк-так сабе яшчэ даюць раду.

— Абарваных і галодных у нас яшчэ няма, — заяўляюць згодна настаўнікі.

Дзяцей з навакольных вёсак давозяць аўтобусам.

**Экалагічны гуртук**

рыхтуе не толькі даклады — расказвае настаўніца біялогіі. — Мы ў гэтым годзе пасадзілі недзе каля 100 дрэвак. Гэта дзеля таго, каб падмацаваць наваколле зеленню. Сабралі таксама грошы на бяздомныя жывёлы. Маем намер наладзіць сувязі з паляўнічымі.

Мне пашчасцілася паслухаць даклад пра Бябжанскі нацыянальны парк. Вучні хацелі б наведаць адзін з такіх запаведнікаў прыроды.

У параўнанні з гарадскімі

**нашыя вучні добрыя**

Яшчэ зважаюць на аўтарытэт настаўніка. Настаўніца біялогіі сцвярджае, што дзеці ідуць „з духам часу". Размаўляюць толькі аб рэкламах і фільмах. Вучні з Пасынак у 100% паступаюць у сярэднія школы. Наогул не маюць цяжкасцей на экзаменах. У мінулым годзе з сямі выпускнікоў трое паступіла ў бельскі беларускі ліцэй. Амаль усе вучні (а іх 39)

**вучацца беларускай мове,**

бо ёсць такі прадмет. Але, каб лічылі гэта абавязкам перад родным, цяжка сказаць. Прыклады вызвалення ад беларускай мовы сведчаць самі за сябе. Але тыя, што вучацца, можа зразумеюць сэнс і патрэбу роднай мовы ў далейшым жыцці. У Пасынках „Ніва" карыстаецца папулярнасцю. Тут звыш дваццаці падпісчыкаў.

**ГАННА КАНДРАЦЮК**
**Фота аўтара**



*Настаўнікі школы ў Пасынках.*

 

# СІМФОНІЯ НАД ЛЯСНОЙ

Перадапошні дзень лістапада мінулага года. Мароз трымае ўжо некалькі тыдняў. Не хочацца і носа высоўваць з дома. Бяруся за адложанае ўлетку чытанне. Праз пару хвілін ад кніжкі адрывае мяне званок у дзверы. Сяргей Тарасевіч ужо з парога дае ўказанне: — Пятрусь, апранайся цёпла, паедзем на Лясную!

Экскурсію на гэтую чароўную раку ў Белавежскай пушчы мы запланавалі яшчэ летам. Лічылі, што выбярэмся недзе пад канец снежня або ў пачатку студзеня, калі ўжо рака замерзне. А тут нечакана едзем цяпер!

Па дарозе забіраем нашага сябру, Барыса Руско. Праз паўгадзіны, мо крыху больш, мы ўжо за Пераналокай. Пакідаем наш аўтамабіль ля паляўнічага амбона і накіроўваемся ў напрамку ракі. Скачам па замёрзлых грудах, праціскаемся праз надрэчны гушчар. Летам сюдой не прыйшлі б! І, вось, недзе ў паўднёва-заходнім вугле 671-га квартала мы выходзім на даліну Лясной. На хвіліну спыняем дыханне. Не ад стомы, а ад захаплення! Краявід суровы, бо зімовы, але неапісальна прыгожы.

Уваходзім на лёд. Сяргей ужо на беразе знайшоў адпаведную тоўстую палку. Ён, пры яе дапамозе, будзе правяраць таўшчыню лёду. — Я для Лясной маю пашану, пасля таго, як пару разоў уляцеў у ваду, — кажа ён. І, сапраўды, палка прыдаецца! Ужо пасля некалькіх хвілін Сяргей паказвае дзірку, якую зрабіў палкай у лёдзе. А здавалася б, што ў гэтым месцы можна смела пераходзіць. — Хто пашаны для Лясной не мае, той пад лёд пападае! — смеючыся, канчае Сяргей.

Рухаемся асцярожна! Разглядаемся навокал. Рака завілістая, са шматлікімі рукавамі. Рэчышча то набліжаецца, то адыходзіць ад бакоў лесу. Уся даліна парослая чаротам. Ён вельмі вялікі, перавышае нас. Ідзем быццам у тунелі. Чаротавым! Уражанне незвычайнае! Краявід, як у казцы.

— Гэта палова той прыгажосці, якую мы тут бачылі з Сяргеем падчас нашай вандроўкі папярэдняй зімой, — сцвярджае Барыс. — Уяві сабе, Пятрусь, які вобраз быў бы навокал, калі ўвесь чарот пакрыць інеем. Вось, тады сапраўды казка! Я той краявід не забуду да канца сваіх дзён!

Уяўляю сабе! Тым часам прыглядаюся чаротавым вяхоткам. На ветры падскокваюць яны быццам у танцы. А калі глянуць на іх пад сонца, тады паблісквуюць серабром. Праз нейкі час мы ўжо не ведаем — чаротавыя гэта вяхоткі ці лясныя душкі, якія паказваюць нам свае танцы?

— Паслухайце, як шуміць лес, а як чарот, — вырывае нас з задумёнасці Сяргей.

Прыслухоўваемся. Розніцу вылоўліваем вокамгненна. Лес шуміць зацяжна, магутна, дастойна. Чарот — далікатна, серабрыста, вясёла. Вылоўліваем вухам і іншыя водгаласы. Над лесам час да часу адзываюцца крумкачы. Недзе застогне старое дрэва, затрашчыць ломаная галінка. Стаім і слухаем гэтую сапраўдную лясную сімфонію. Робіца лёгка на душы і на целе. Нас спавівае пачуццё ўзвышанасці. Адлятаюць дзесьці ў нябыт нашыя штодзённыя клопаты, праблемы. Мы стаім чыстыя, быццам нованароджаныя. Нашы сэрцы поўны нязвыклай радасці.

— Паглядзіце, хлопцы, — азываецца Барыс, — якая сіла ў прыродзе! Мне зараз, калі падумаю пра дом, пра горад, у які мне трэба вярнуцца, робіцца проста страшна. Гэта, як падавацца ў турэмнае зняволенне. Сколькі мы губляем, адлучаючыся ад прыроды! Як мала жыхароў вялікіх гарадоў ўсведамляе сабе гэта! А, гледзячы з другога боку, якое варварства чалавек учыняе, знішчаючы Белавежскую пушчу! Што з яе сёння асталося? Вось, гэтыя лапікі, якія таксама знаходзяцца пад пагрозай!.. Наколькі было б разумней спыніць высечку лесу і пачаць адно яго паказваць людзям з усяго свету. На гэтым жа таксама можна было б зарабіць немалыя грошы, а і пушча асталася б!

Працягваем нашу вандроўку. На адным з паваротаў рэчышча спатыкаем на двух вольхах свежыя сляды бабрыных зубоў. — Яны цяпер засяляюць цэлую раку, — паясняе Сяргей. Разглядаемся за бабровымі хаткамі, але тут іх не прыкмячаем. На лёдзе, прысыпаным снегам, увесь час назіраем воўчыя сляды. Яны больш-менш тыднёвай даўнасці. Найхутчэй, ішла сюдою пара ваўкоў. У адным месцы яны выразна пачалі кусацца. Адзін з іх пакінуў па сабе жоўтыя сляды сікуноў. У шматлікіх месцах бачым сляды аленяў. Пад адным заламаўся лёд. Дакладна відаць, як жывёліна выратоўвалася. Час да часу сустракаем таксама дробненькія сляды мышак. За адным з паваротаў чакае нас неспадзяванка мастацкага характару. Трыснёг, гайданы ветрам, намаляваў на снезе нейкі абстрактны, захапляючы вобраз. Толькі перанесці яго на палотна!

Гэтую „кнігу прыроды" чытаем на працягу ўсёй нашай вандроўкі. Кожны наш крок адчыняе яе новую старонку.

— Сяргей, глядзі, на левым беразе стаіць наш „гарачы" дуб! — усклікае раптам Барыс.

— Што вы ўжо прыдумалі, — кажу сябрам. — Новы від дуба знайшлі?

Сябры нічога не паясняюць, толькі накіроўваюцца ў напрамку дрэва. Дуб на вока мае недзе пад 200 гадоў. На ім відаць маланкавую трэшчыну.

— Прыбліжы да дрэва рукі, — кажа мне Барыс.

Выконваю ўказанне сябра. Хаця марозліва і дзьме востры вецер, ад дрэва цягне цяплом. Неяк дзіўна сябе адчуваеш у такі момант. Паўтара кіламетра, а, мо, крыху больш, на захад ад гэтага дуба знаходзіцца запаведнік „Сіткі".

Уваходзім ізноў на замёрзлае рэчышча. Захапляемся паваленай бярозай, якая падаючы дасягнула другога берага. Яе галіны тырчаць высока над лёдам. Краявід як на карціне! Наш зрок прыцягвае таксама сцяна лесу, з якой вылоўліваем шэрагі засохлых дрэў, найбольш вольхаў.

— Думаю, што нам ужо пара вяртацца, — з нейкім сумам у голасе азываецца вясёлы дагэтуль Сяргей. — Прайшлі мы больш-менм два кіламетры.

Што ж, хаця неахвотна, але вяртаемся. У паваротнай дарозе дзьме нам у твар востры ўсходні вецер. Дык ён не ў змозе выверць з нас тых каштоўнасцей, якімі мы абзапасілі нашы сэрцы і душы падчас гэтых некалькіх гадзін знаходжання на ўлонні цудоўнай белавежскай прыроды.

**ПЁТР БАЙКО**

P. S. Пасля першай сваёй вандроўкі на раку Лясную, Барыс Руско напісаў вось такі верш:

**З-ПА-НАД ЛЯСНОЙ**

Пацалунак Бога ўчыніў
непаўторную ўсмешку пушчы
Куточкам вока ўвіў
у чароты Лясной калье
А на акраіне даліны
спыніў танец
вейкаў размаўляючых дубоў
А мы ішлі Сяргеевым тунелем
дзе кожны крок адчыняў
новы спектакль прэміяльных рэвю
Які ж гэта мусіць быць шчодры дар
талентаў
каб магчы гэтак іграць
дыханнем колераў і формаў
Неба карычневым крылам ястраба
кружылася над намі
як словам ласкі выйграным
у конкурсе непаўторнасці.

# ТЭАТР „ЗЬНІЧ" НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра „Зьніч", які працуе пры Беларускай дзяржаўнай філармоніі ў Менску, ёсць своеасаблівай з'явай у беларускай культуры. Паўстаў ён у выніку нацыянальнага адраджэння ў Беларусі. Адначасова ўносіць ён свой уклад у гэты працэс у форме каштоўнасці беларускага мастацкага слова. Пачынальнікам тэатра і яго мастацкім кіраўніком ды вядучым артыстам ёсць Галіна Дзягілева. У акцёркі багаты артыстычны і жыццёвы вопыт. У сваіх монаспектаклях стварае яна насычаныя вобразы змагання за чалавечую годнасць. У адным з іх — „Выгнанні ў рай" — Галіна Дзягілева набліжае гледачу гістарычную асобу беларускай княгіні Рагнеды (Гарыславы, Анастасіі). Гераіня зведала многія выпрабаванні лёсу, горыч страты сваёй бацькаўшчыны, змаганне за сваю волю і годнасць. Найноўшы спектакль „Белы сон" створаны на аснове твораў Ларысы Геніюш. У ім таксама прадстаўлена нязломнасць чалавечай волі ў змаганні за свой народ. Сцэнічнымі сродкамі быў паказаны пакутніцкі лёс беларускай паэтэсы. У спектаклі сцэна зменена на турэмную камеру, дзе Ларыса Геніюш успамінае сваё жыццё. Лютыя выпрабаванні не скарылі яе волі і прыгажосці душы. Асоба гэтай выдатнай жанчыны з'яўляецца блізкай для беларусаў Беласточчыны. З-пад Крынак паходзіў Яе род. У Беластоку жыў яе адзіны сын Юрка Геніюш. На жаль, і яму, як сыну Ларысы Геніюш, жыццё не скупіла цяжкіх выпрабаванняў. Памёр ён заўчасна ў 1985 годзе на 50 годзе жыцця і пахаваны на беластоцкіх могілках.

Тэатр „Зьніч" мае багаты рэпертуар. Апрача Галіны Дзягілевай іншыя знакамітыя артысты таксама выступаюць з монаспектаклямі. На аснове твораў Уладзіміра Караткевіча Валеры Шушкевіч стварыў выдатную пастаноўку „Дабравесце ад Уладзіміра". Адзін выканаўца ўвасабляе на сцэне разнавіднасць персанажаў твораў Караткевіча, прадстаўляе шматлікія вобразы з жыцця беларускага народа. Глядач мае магчымасць адчуць багацце беларускай культуры. Іншы монаспектакль у выкананні Аляксандра Ткачонка, пастаўлены на твор польскага пісьменніка Ежы Брашкевіча „Дзве прыгоды Лемюэля Гулівера". У ім таксама паказана змаганне за чалавечнасць. „Гулівер" натхняе гледача да рэфлексіі над жыццёвымі вартасцямі.

Мастацтва тэатра „Зьніч" вызначаецца змястоўнасцю і высокім прафесійным узроўнем. Увесь калектыў налічвае восем чалавек. Такі састаў поўнасцю забяспечвае сцэнічныя пастаноўкі. Улічваючы даволі невялікі састаў калектыву ды багаты рэпертуар, вырашыў я сарганізаваць на Беласточчыне выступленні „Зьніча". Паўстала праблема: як гэта ажыццявіць у цяперашняй сітуацыі? Спадзявацца на БГКТ дарэмная справа. Заставалася самому „круціцца" і шукаць добрых людзей, каб здзейсніць задуму. Прашу прабачэння ў чытачоў за асабістыя рэфлексіі, але нарабіў я сабе ды іншым клопатаў. Аднак, калі „ўзяўся за гуж"... трэба было цягнуць. На жаль, падчас падрыхтоўкі і правядзення гастроляў давялося сустрэцца з пэўнымі непрыхільнасцямі. Некаторыя асобы надта непрыхільна ставіліся да гэтага мерапрыемства, часам падазравалі мяне ў нейкіх прыватных карысцях. Тым, якія так лічаць, прапаную самім сарганізаваць імпрэзу культурнага характару. Няхай таксама пакарыстаюцца.

Абурае мяне тое, што некаторыя чыноўнікі ад культурна-асветнай дзейнасці ўхіляюцца ад працы на беларускай ніве. І таму іншым прыходзіцца займацца патрэбымі справамі, часта за кошт свайго прыватнага жыцця. Пэўна, слаба ўсведамляем значэнне культурных вартасцей нашага народа, таму за іх не змагаемся.

Дзеля таго, каб правесці выступленні тэатра „Зьніч" на Беласточчыне, давялося многа ўкласці намаганняў. На шчасце, знаходзіліся добразычліўцы, якія не адмовіліся дапамагчы. Дзякуючы Алесю Палескаму з Беластока ды Зміцеру Кіселю з Гародні змог я паехаць у Менск, каб аформіць арганізацыйныя справы і абмеркаваць праграму гастроляў. Дзякуючы асобам, якія са спагадай аднесліся да справы, стала магчымым ад 24 да 28 лістапада мінулага года арганізаваць спектаклі ў Гарадку, Беластоку, Гайнаўцы, Старым Беразове, Бельску, Дубічах-Царкоўных, Нараўцы і Ляўкове Старым. Трэба прытым адзначыць, што прафесійныя артысты з Менска згадзіліся правесці свае гастролі на Беласточчыне. Нягледзячы на цяжкія ўмовы, не патрабавалі яны ганарараў за спектаклі ці добрых варункаў закватаравання. Прыехалі сваім аўтобусам, везучы з сабой поўнае сцэнічнае абсталяванне ды нават сваё харчаванне. Тут варта заўважыць, што ў калектыве тэатра „Зьніч" не ўсе акцёры — беларусы па нацыянальнасці. Здаралася так, што некаторыя з нашых гарачых патрыётаў, чуючы „небеларускае маўленне" звярталі на гэта ўвагу. І тут трэба паясніць, што спектаклі былі не толькі беларускамоўнымі, але моцна нацыянальнымі ў сваім характары. Мелі магчымасць пераканацца ў гэтым тыя, што паглядзелі выступленні „Зьніча".

З увагі на тое, што ў розных месцах на трасе гастроляў сустрэчы мелі свае асаблівасці, хочацца пра іх расказаць крыху больш дэталёва.

*(Заканчэнне ў наступным нумары)*

**ЯН МОРДАНЬ**

# СОЛЬ і ПЕРАЦ

Кожнае пакаленне пакідае пасля сябе ў спадчыну пэўны культурніцкі здабытак, і не толькі матэрыяльны. Літаратура, музыка, жывапіс, навука... Цікавы факт: хтосьці з вялікіх сказаў, што толькі кожны дзесяты чалавек мае здольнасць да мыслення, і толькі кожны соты прыносіць у жыццё нейкія мастацкія вартасці — кніжкі, карціны, песні, танцы. Першы прыклад: „белавежцы" — пісьменнікі, паэты — складаюць адну пятнаццацітысячную частку беларускай меншасці (большасці) на Беласточчыне. Калі прыняць для роўнага рахунку, што ўсіх „белавежцаў" больш-менш дзесяць чалавек — гэта статыстычнае больш-менш, а не тое, што Я. Чыквін піша больш, а В. Швед піша менш, і калі возьмем нейкую ўзроставую групу „белавежцаў", для прыкладу ад 30 да 40 гадоў, то якраз атрымаецца, што адзін працэнт творцаў на ўсю папуляцыю трыццацігадовых беларусаў Беласточчыны — гэта соль і перац нашага грамадства.

А цяпер падумайма. Адзін працэнт беларусаў Беласточчыны мае ўтрымаць нацыянальнасць, стварыць для патомных культуру і ячшэ сяк-так перажыць сваё жыццё. У славянскіх краінах за творчасць, калі і плацяць, дык вельмі мала, і ад першага да першага зусім цяжка пражыць з тае зарплаты. Можа і таму мы так адстаем ад Захаду, што творцы культуры знаходзяцца на канцы спіска паважаных і сярэднебагатых людзей.

Але добра і так, што мы, беларусы Беласточчыны, маем тую соль і той перац нашай грамадскасці, бо жыццё было б шэрае і трэба было б або апалячыцца, або ўкраінізавацца, або русіфікавацца, а наша культура поўнасцю прапала б.

**МІХАСЬ МАХНАЦКІ**



 

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 408

**МІХАСЬ АНДРАСЮК**

*нарадзіўся 2 снежня 1959 г. у Войнаўцы, што ў Дубіцкай гміне. У 1978 г. закончыў Беларускі ліцэй у Гайнаўцы. Да 1983 г. працаваў настаўнікам. Цяпер займаецца рамяством. Жыве ў Гайнаўцы.*

*Асобныя творы паэта ўжо друкаваліся ў „Ніве". Ніжэй змяшчаем падборку яго новых вершаў, якія падрыхтавала да друку Міра Лукша.*

С. Я.

### Прабудзі мяне

прабудзі мяне, калі ноччу
закрычу, як той воран, праз сон,
калі чорныя сцены рагочуць,
разбудзі мяне чорнаю ноччу
і вазьмі у свой дом

дзе бяроза глядзіць у аконца,
дзе кроў сінюю з неба п'е лён,
дзе стаіць маліновае сонца,
дзе гарыць маліновае сонца
васільковым агнём

прабудзі, калі ў чорных бетонах
вецер цяжкай нагой прабяжыць,
раскажы, што ў бярозах і клёнах,
што ў траве маладосцю зялёнай
шуміць



### Восень

сніцца дурная маладосць
песні-красуні і віно
сяджу я там як п'яны госць
а разышліся ўсе даўно

над вуліцай рабін кастры
гарaць халодзенькім агнём
і жмурыць вочы дуб стары
кудлы рудыя чэша клён

мае сябры з малых гадоў
восень сядзіць нам на плячах
з лесу глядзіць галодны воўк
і бачыць наш дрыжачы страх

коціцца сонца без калёс
снапы праменняў у воз кладуць
і сукні жоўтыя бяроз
спадаюць ціхенька ў траву

гэта ж сукенкі тых дзяўчын
што у дурных гадах кахання
пратанцавалі не адзін
вечар да белага світання

* * *

Ёсць на зямлі
крыніцы слоў,
з каторых ваду
п'е каханне,
з прасоння будзіць
пажаданне
аглумлена вадою кроў.

Ёсць на зямлі крыніцы слоў.
Хаця ў далонях
нашых вечнасць,
чамусьці хочам недарэчна
туды дабегчы
стрымгалоў.

### Каляда

У снег глыбокі паўзем на каленях.
Трава пад снегам спіць бяспечна.
Ў галовах кудлатых каляднае сена
і месяц — халодная свечка.

Маці з іконай гутарыць аб долі
дзяцей, што журавамі адляцелі
ў вырай,
п'е вуснамі з блакіту боль іх
і падымае крылы іх малітвай шчырай.

Скрыпяць у небе крывыя дзверы,
саламяныя хахлы выходзяць з садоў,
сядаюць з намі за стол павячэраць
без слоў.

А стол, як стол. У ім моц і мудрасць
дуба.
Моргае вокам сотняй пакаленняў
і падае маладым дрэварубам
хлеб прабачэння.

* * *

Над лесам ціха ходзіць вечар,
а лес сапе глыбокім басам,
неба гарыць мільёнам свечак
з бязмежнага іканастаса;

а першая свечка —
для святых,
другая
для грэшных
і сэрцам малых.

Падстаўце далоні, калі
воск цёплы ліецца каменнем;
вы, каторым баліць
сумленне!..

*МІРА ЛУКША*

## БАРБУША

Мікола Баравіцкі сядзеў на цэментавым падмурку магілкі і паліў "норда". Помніка на асеўшым ужо копчыку Барбушы з Лазовага яшчэ не паставілі, ці то не было каму заказаць, ці кошт так павялічыўся на надмагільныя помнікі ў гайнаўскіх майстроў, што дзецям Барбушыным, што іх матка павысылала ў людзі, грошай на памятку не хапіла? Узвалілі толькі шэры цэментавы прастакутнік з крыжам у галовах з некалькімі словамі пра старую — на аблупленай блясе — ды паірдзелым партрэтам, што крыва павіс, а ў жоўты неўрадлівы пясочак уваткнулі штук дваццаць кітайскіх дробных гваздзік. Ад Радаўніцы стаялі сшарэлыя свечкі, тлелі лупіны яйка. Мікола зламаў пару галінак чарнобыля, змахнуў смецце спаміж кветак з-пад крыжа.

* * *

Барбуша, што ёй цяпер! Ні думаеш, ні плачаш, нічога табе не баліць... Не раз заходзіў Мікола да старое пры яе жыцці, — суседзямі былі цераз плот. Здавалася, і не было яе, — ціхая цётка, як яе называлі дарослыя і малыя. Барбуша да нікога справы не мела, за лішнім словам у кішэнь не лезла, грэбалася ў гародчыку, перавязвала на выгане сваю трыбухатую каройку... Кругленькая, калдыбала, прыкульгваючы, у чорных спадніцах, заўсёды чыстых, акуратных, адпрасаваных. Барбуша пасівела даўно, у маладосці, раптам, у адну ноч; казалі, калі яе хлопца ва Усходняй Прусіі немец забіў. Збялела тады яе галава, як снег, толькі брывы чорнымі засталіся. Барбуша павязвала хустачку пад бараду, насоўвала яе нізка на лоб, часам пад яе закладала яшчэ беленькую, гафтаваную, і ў яе суровым, хаця круглым і румяным твары было штосьці манаскае, строгае. Была Барбуша замужам — пайшла за Міколавага траюраднага брата, Сцёпу.

* * *

Памятае Мікола іх вяселле. Усе запамяталі! Ужо збіраліся ехаць у царкву, як на ўспацелым кані без сядла ўляцеў у вёску Саўкаў Гарасім. Хто яго ведае, пёр хіба на тым кані з самога Бранска, ці што? Каня з выпучанымі ад стомы вачыма закінула аж пад Насціну ліпу, а Гарасім куляй скаціўся з яго спіны. Хлопец кінуўся Барбушы пад ногі.

— Чым я горшы за яго, Барбуша?! — закрычаў Гарасім немым голасам. — Я ж цябе не кінуў?! Казаў, хочаш за мяне пайсці, то павянчаемся, то чаго ж ты з'ехала, нічагуткі не сказаўшы?

Сцяпан схапіў яго за кашулю, аж затрашчала. Пацягнулі дружбанты Гарасіма недзе за маліны. Народ адно насы панастаўляў, мужыкі парасшпільваліся, а бабы давай брацца за галовы, рукі ламаць: будзе бяда! Вызваліўся Гарасім, прыбег да Барбушы, што ўжо ўзлазіла на фурманку, цэлы ў сіняках, абшарпаны, да рук яе кінуўся:

— Мілая, яшчэ ёсць час!.. А?.. ідзем, ну пайшлі... едзем! Не кідай ты мяне, Барбуша, не ідзі за гэтага... бо я сабе крыўду зраблю... а ты... на няшчасце так...

Адвярнулася Барбуша, села выгадней на накрытай сенам і дзяружкай дошцы, пасядалі госці на вазы ды паехалі ў царкву.

Грэчка ў той час якраз цвіла. Добры палетак быў, Гапчын, паміж хваінкай і мазалёўскім полем. У гэтай грэчцы Гарасіма і знайшлі. З дзіркай ад кулі ў лобе. Пісталет меў з сабою. Можа, спачатку напалохаць хацеў дзяўчыну, а потым і праўда, жыць яму адхацелася, меркаваў Мікола. Ды што ж гэты Гарасім убачыў у той Барбушы, якой было ўжо трыццаць два гады, а яму самому ж толькі дваццаць адзін, — сівавалосай, праўда праўдаю, спраўнай з фігуры, але несмяшлівай, што і танцаў не любіла, і на вячоркі хадзіць не прападала?.. Прыехаў тады з Гайнаўкі брат Гарасімаў на вайсковай машыне, з міліцыянтамі. Распытвалі ўсіх, што-дзе-як. Вядома, як з гэтым бывае. Тут жа справа простая, ніякай палітыкі. Што брат-бяспечнік меў знюхаць? А яшчэ ж тады банды хадзілі, то магло пахнуць, ой, ну, вядома, чым. Добра, што сведкаў знайшлося столькі, каб пацвердзіць, у чым уся бяда была, як Гарасім нервова звіхнуўся, бо іначай папацягалі б, ой, папацягалі б па міліцыях, па судах!

* * *

Чорным шуляком лягла смерць Гарасіма на Барбушына жыццё. Быццам усё добра ішло, спорылася ў гаспадарцы, дзеці гадаваліся здаровымі, харошымі, Сцяпан жа не горшы за іншых мужыкоў... Але, зусім замоўкла Барбуша. Заўсёды ў хустачцы, нізка і ціха сунулася ў доўгай спадніцы па полі, па вуліцы. Вядома — мода, нашы бабы пазавівалі свой волас у андуляваныя кудзеркі-баранчыкі, фарсілі ў празрыстых ядвабных і нейлонавых светлых хустках, скарачалі спадніцы да паўлыткі, і спачатку з нецярплівасцю пазіралі на Барбушу, папракалі яе ў тым, што ў нестарым узросце робіць з сябе занядбаную старэчу. Перажылі ж вайну цэлымі, вярнуліся на бацькоўскае, гаспадараць на сваім, дружына здаровая, чаго ж тут думаць праміну лае?! Потым перасталі займацца ёю. Няхай сабе жыве, як хоча...

* * *

Мікола ўстаў з мурка, абтрос нагавіцы. Рушыў уніз, у вёску. Зноў засядзеўся на могільніку. Ягоных сяброў, знаёмых ужо больш пад гэтым пясчаным пагоркам, чым у вёсачцы, што цямнее там унізе, азываецца вячэрнімі жывымі галасамі жывёл, людзей.

Сыдзе Мікола дарожкай, што паміж падрослым сасоннікам, каля садка Селяшчука, паўз перасохлыя, даўно змеліяраваныя лугі з патрэсканым чорным ровам са стужкаю кіслай вады на дне, збоч ясеневых прысадаў каля няпоўных адрынак, пакульгае па-за клунішчы Петрукоў, за ўдзічэлы сад Касцюка, па ўдзірванелых выбаістых загонах колішніх агародаў, і каля сажалкі зарослай сітнягом ды асакою, з кустамі дурнап'яну. І вось яшчэ адно памятанае поле.

Тут калісьці расла грэчка, тут застрэліўся Гарасім.

Лес у гэтым месцы сёння расце, цяпер густы маладняк, пасаджаны роўнымі радамі.

**КРАСАВІК — KWIECIEŃ**

1 19 Пт Дар'і, Grażyny
2 20 Сб Сяргея, Franciszka
**3 21 Н Якуба, Wielkanoc**
**4 22 Пн Васіля, Wielkanoc**
5 23 А Нікана, Ireny
6 24 Ср Арцёма, Celestyna
7 25 Ч *Дабравешчанне Прасвятое Багародзіцы*, Donata
8 26 Пт Алы, Dionizego
9 27 Сб Матруны, Mai
**10 28 Н Ларывона, Małgorzaty**
11 29 Пн Марка, Filipa
12 30 А Марыі, Juliusza
13 31 Ср Іпація, Idy
14 1 Ч Марыі, Justyny
15 2 Пт Палікарпа, Anastazji
16 3 Сб Мікіты, Julii
**17 4 Н Язэпа, Roberta**
18 5 Пн Хвядоры, Apoloniusza
19 6 А Яўціхія, Jerzego
20 7 Ср Даніла, Agnieszki
21 8 Ч Радзівона, Anzelma
22 9 Пт Вадзіма, Łukasza
23 10 Сб Цярэнція, Wojciecha
**24 11 Н** *Уваход Гасподзен у Іерусалім (Вербніца)*, **Aleksego**
25 12 Пн Васіля, Jarosława
26 13 А Артамона, Marii
27 14 Ср Марціна, Zyty
28 15 Ч Трахіма, Walerii
29 16 Пт Галіны, Piotra
30 17 Сб Адрыяна, Mariana

**ТРАВЕНЬ — MAJ**

**1 18 Н** *Уваскрасенне Гасподняе. Вялікдзень*
2 19 Пн *Велікодны Панядзелак*
**3 20 А** *Гаўрыіла Заблудаўскага*, **Święto Narodowe**
4 21 Ср Януарыя, Moniki
5 22 Ч Віталя, Waldemara
6 23 Пт *Юрыя*, Jana
7 24 Сб Савы, Benedykta
**8 25 Н Сільвестра, Stanisława**
9 26 Пн Васіля, Grzegorza
10 27 А Сямёна, Antoniny
11 28 Ср Кірылы Тураўскага, Igi
12 29 Ч Дыядора, Dominika
13 30 Пт Якуба, Roberta
14 1 Сб Тамары, Bonifacego
**15 2 Н** *Барыса і Глеба*, **Nadziei**
16 3 Пн Цімафея, Andrzeja
17 4 А Пелагеі, Weroniki
18 5 Ср Ірыны, Eryka
19 6 Ч Міхея, Mikołaja
20 7 Пт Ніла, Bazylego
21 8 Сб Арсеня, Wiktora
**22 9 Н** *Мікалая*, **Heleny**
23 10 Пн Сымона, Iwony
24 11 А Кірылы, Joanny
25 12 Ср Германа, Grzegorza
26 13 Ч Аляксандра, Pauliny
27 14 Пт Мікіты, Magdaleny
28 15 Сб Мадэста, Augustyna
**29 16 Н Хведара, Magdaleny**
30 17 Пн Ефрасінні, Feliksa
31 18 А Хвядота, Anieli

**ЧЭРВЕНЬ — CZERWIEC**

1 19 Ср Карніла, Jakuba
2 20 Ч Аляксандра, Marii
3 21 Пт Канстанціна, Leszka
4 22 Сб Уладзіміра, Franciszka
**5 23 Н** *Ефрасінні Полацкае*, **Walerii**
6 24 Пн Сцяпана, Norberta
7 25 А Іаана, Wiesława
8 26 Ср Карпа, Wilhelma,
9 27 Ч *Узнясенне Гасподняе*
10 28 Пт Мікіты, Bogumiły
11 29 Сб Хвядосіі, Feliksa
**12 30 Н Ісака, Jana**
13 31 Пн Ерамея, Antoniego,
14 1 А Юстына, Elizy
15 2 Ср Нікіфара, Jolanty
16 3 Ч Лук'яна, Aliny
17 4 Пт Мітрафана, Laury
18 5 Сб Дарафея, Elżbiety
**19 6 Н** *Дзень Святое Тройцы* **Gerwazego**
20 7 Пн *Дзень Святога Духа*, Bogny
21 8 А Хведара, Alicji
22 9 Ср Марфы, Flawiusza
23 10 Ч Аляксандра, Wandy
24 11 Пт Варфаламея, Danuty
25 12 Сб *Св. Ануфрыя*, Łucji
**26 13 Н Антаніны, Jana**
27 14 Пн Елісея, Władysława
28 15 А Амоса, Ireneusza
29 16 Ср Ціхана, Piotra
30 17 Ч Мануіла, Emilii

# КАЛЯНДАР 1994 „НІВЫ”

## ДАДАТКОВЫЯ ВЫХАДНЫЯ ДНІ Ў 1994 ГОДЗЕ

8, 15, 29 студзеня;
5, 12, 26 лютага;
5, 12, 19 сакавіка;
2, 16, 23 красавіка;
2, 14, 28 мая;
11, 18, 25 чэрвеня;
2, 9, 23, 30 ліпеня;
6, 13, 27 жніўня;
3, 10, 24 верасня;
1, 8, 22, 31 кастрычніка;
12, 19, 26 лістапада;
10, 24, 31 снежня.



**КАСТРЫЧНІК — PAŹDZIERNIK**

1 18 Сб Арыядны, Danuty
**2 19 Н Хведара, Teofila**
3 20 Пн Міхала, Teresy
4 21 А Кандрата, Franciszka
5 22 Ср Іоны, Apolinarego
6 23 Ч Андрэя, Artura
7 24 Пт Тэклі, Marii
8 25 Сб Сяргея, Brygidy
**9 26 Н Яна Багаслова, Ludwika**
10 27 Пн Ігната, Pauliny
11 28 А Харытона, Emila
12 29 Ср Кірыяка, Maksymiliana
13 30 Ч Рыгора, Edwarda
14 1 Пт *Пакроў Прасвятое Багародзіцы*, Bernarda
15 2 Сб Кіпрыяна, Jadwigi
**16 3 Н Яна, Florentyny**
17 4 Пн Уладзіміра, Małgorzaty
18 5 А Пятра, Łukasza
19 6 Ср Тамаша, Ziemowita
20 7 Ч Сяргея, Ireny
21 8 Пт Таісы, Urszuli
22 9 Сб Якуба, Filipa
**23 10 Н Яўлампія, Marleny**
24 11 Пн Піліпа, Rafała
25 12 А Марціна, Darii
26 13 Ср Веніяміна, Ewarysta
27 14 Ч Назара, Sabiny
28 15 Пт Лук'яна, Szymona
29 16 Сб Лангіна, Wiolety
**30 17 Н Андрэя, Edmunda**
31 18 Пн Лукі, Augusta

**ЛІСТАПАД — LISTOPAD**

**1 19 А Яна, Wszystkich Świętych**
2 20 Ср Арцёма, Bohdana
3 21 Ч Ларывона, Sylwii
4 22 Пт *Казанскай Іконы Божае Маці*, Karola
5 23 Сб Якуба, Elżbiety
**6 24 Н Апанаса, Feliksa**
7 25 Пн Марціна, Antoniego
8 26 А Зміцера, Seweryna
9 27 Ср Нестара, Teodora
10 28 Ч Параскевы, Andrzeja
**11 29 Пт Анастасіі, Święto Niepodległości**
12 30 Сб Зіновія, Witolda
**13 31 Н Урбана, Mikołaja**
14 1 Пн Кузьмы, Emila
15 2 А Марк'яна, Leopolda
16 3 Ср Агапія, Gertrudy
17 4 Ч Нікандра, Grzegorza
18 5 Пт Галакціёна, Anieli
19 6 Сб Паўла, Elżbiety
**20 7 Н Засімы, Anatola**
21 8 Пн *Міхаіла*, Janusza
22 9 А Анісіфара, Cecylii
23 10 Ср Радзівона, Felicyty
24 11 Ч Віктара, Flory
25 12 Пт Яна, Katarzyny
26 13 Сб Нікіфара, Konrada
**27 14 Н Піліпа, Barbary**
28 15 Пн Гурыя, Krystyny
29 16 А Мацвея, Błażeja
30 17 Ср Рыгора, Andrzeja

**СНЕЖАНЬ — GRUDZIEŃ**

1 18 Ч Платона, Natalii
2 19 Пт Аўдзея, Balbiny
3 20 Сб Рыгора, Ksawerego
**4 21 Н** *Уводзенне ў храм Найсвяцейшае Дзевы Марыі*, **Barbary**
5 22 Пн Хілімона, Krystyny
6 23 А Аляксандра, Emiliana
7 24 Ср Кацярыны, Ambrożego
8 25 Ч Пятра, Marii
9 26 Пт Якуба, Leokadii
10 27 Сб Рамана, Daniela
**11 28 Н Сцяпана, Waldemara**
12 29 Пн Парамона, Adelajdy
13 30 А Андрэя, Łucji
14 1 Ср Філарэта, Alfreda
15 2 Ч Авакума, Celiny
16 3 Пт Хведара, Zdzisławy
17 4 Сб *Варвары*, Olimpii
**18 5 Н Савы, Bogusława**
19 6 Пн *Мікалая*, Dariusza
20 7 А Антона, Dominika
21 8 Ср Патапа, Tomasza
22 9 Ч Ганны, Honoraty
23 10 Пт Ангеліны, Sławomiry
24 11 Сб Данілы, Adama
**25 12 Н Аляксандра, Boże Narodzenie**
**26 13 Пн Яўгена, Izydora**
27 14 А Хілімона, Cezarego
28 15 Ср Сцяпана, Teofili
29 16 Ч Агея, Dominika
30 17 Пт Данілы, Eugeniusza
31 18 Сб Зоі, *Sylwestra*

 

# БЕЛАРУСКІ 1994 КАЛЯНДАР

У першай калонцы лічбаў прыводзяцца даты па новаму стылю; у другой — па старому стылю, прычым першых трынаццаць лічбаў адносяцца да папярэдняга месяца. У чацвёртай калонцы даюцца імёны святых або назвы важнейшых святаў: на першым месцы (па-беларуску) названы праваслаўныя імёны (святы), а на другім месцы (па-польску) — каталіцкія імёны (святы). Тлустым шрыфтам пазначаны нядзелі і дзяржаўныя або каталіцкія святы, якія з'яўляюцца днямі вольнымі ад працы ў Польшчы. Курсівам пазначаны важнейшыя праваслаўныя святы.

## СТУДЗЕНЬ — STYCZEŃ

**1 19 Сб Баніфація, Nowy Rok**
**2 20 Н Ігнація, Izydora**
3 21 Пн Ульяны, Danuty
4 22 А Анастасіі, Eugeniusza
5 23 Ср Паўла, Edwarda
6 24 Ч *Куцця*, Kacpra
7 25 Пт *Нараджэнне Хрыстова*, Juliana
8 26 Сб *Сабор Прасвятое Багародзіцы*, Mścisława
**9 27 Н Сцяпана, Marcjanny**
10 28 Пн Ніканора, Jana
11 29 А Хвядоса, Honoraty
12 30 Ср Анісіі, Arkadiusza
13 31 Ч Маланіі, Weroniki
14 1 Пт *Новы Год*, Feliksa
15 2 Сб Серафіма, Pawła
**16 3 Н Гардзея, Włodzimierza**
17 4 Пн Засімы, Antoniego
18 5 А Міхея, Małgorzaty
19 6 Ср *Богаяўленне*, Henryka
20 7 Ч *Сабор св. Іаана Хрысціцеля*, Sebastiana
21 8 Пт Юрыя, Agnieszki
22 9 Сб Піліпа, Wincentego
**23 10 Н Рыгора, Marii**
24 11 Пн Феадосія, Feliksa
25 12 А Таццяны, Miłosza
26 13 Ср Пятра, Pauli
27 14 Ч Ніны, Jana
28 15 Пт Паўла, Walerego
29 16 Сб Даната, Franciszka
**30 17 Н Антона, Martyny**
31 18 Пн Апанаса, Marceliny

## ЛЮТЫ — LUTY

1 19 А Макара, Ignacego
2 20 Ср Іны, Danuty
3 21 Ч Максіма, Juliana
4 22 Пт Цімафея, Konstancji
5 23 Сб Клімента, Konrada
**6 24 Н Ксенні, Leona**
7 25 Пн Рыгора, Eleonory
8 26 А Аркадзія, Jana
9 27 Ср Яна, Apolonii
10 28 Ч Яфрэма, Elwiry
11 29 Пт Ігната, Bernadetty
12 30 Сб Васіля, Nory
**13 31 Н Мікіты, Katarzyny**
14 1 Пн Трыфана, Lilianny
15 2 А *Стрэчанне Гасподняе*, Jowity
16 3 Ср Сымона, Danuty
17 4 Ч Мікалая, Juliana
18 5 Пт Агаты, Konstancji
19 6 Сб Хрысціны, Arnolda
**20 7 Н Парфена, Leona**
21 8 Пн Захара, Eleonory
22 9 А Нікіфара, Marty,
23 10 Ср Ганны, Romany
24 11 Ч Усевалада, Bogusza
25 12 Пт Аляксея, Cezarego
26 13 Сб Зоі, Aleksandra
**27 14 Н Кірылы, Anastazji**
28 15 Пн Ефрасінні, Makarego

## САКАВІК — MARZEC

1 16 А Данілы, Albina,
2 17 Ср Хведара, Heleny,
3 18 Ч Лявона, Kunegundy
4 19 Пт Архіпа, Łucji
5 20 Сб Юрыя, Fryderyka
**6 21 Н Цімафея, Róży**
7 22 Пн Палікарпа, Tomasza
8 23 А Дзямяна, Beaty
9 24 Ср Эразма, Franciszki
10 25 Ч Тараса, Cypriana
11 26 Пт Парфіра, Benedykta
12 27 Сб Пракопа, Bernarda
**13 28 Н Марыны, Bożeny**
14 1 Пн Еўдакіі, Пачатак Вялікага Посту, Matyldy
15 2 А Хвядота, Ludwiki
16 3 Ср Зянона, Izabeli
17 4 Ч Данілы, Patryka
18 5 Пт Адрыяна, Cyryla
19 6 Сб Аркадзя, Bogdana
**20 7 Н Васіля, Klaudii**
21 8 Пн Лазара, Benedykty,
22 9 А *40 мучанікаў*, Katarzyny
23 10 Ср Міхала, Pelagii
24 11 Ч Сафронія, Gabriela
25 12 Пт Рыгора, Marii
26 13 Сб Хрысціны, Emanuela
**27 14 Н Расціслава, Lidii**
28 15 Пн Аляксандра, Anieli
29 16 А Юльяна, Wiktoryny
30 17 Ср Аляксея, Dobromira
31 18 Ч Трахіма, Balbiny

## ЛІПЕНЬ — LIPIEC

1 18 Пт Лявона, Haliny
2 19 Сб Юды, Marii
**3 20 Н Мяфодзія, Jacka**
4 21 Пн Юльяна, Malwiny
5 22 А Зіны, Wincentego
6 23 Ср Арцёма, Czesława
7 24 Ч *Нараджэнне св. Іаана Хрысціцеля*, Daniela
8 25 Пт Пятра, Albina
9 26 Сб Давіда, Apolinarego
**10 27 Н Самсона, Kingi**
11 28 Пн Сяргея, Olgi
12 29 А *Пятра і Паўла*, Weroniki
13 30 Ср *12 Апосталаў*, Małgorzaty
14 1 Ч *Кузьмы і Дзямяна*, Stelli
15 2 Пт Фоція, Henryka
16 3 С Анатоля, Marii
**17 4 Н Андрэя, Aleksego**
18 5 Пн Апанаса, Kamila
19 6 А Юльяны, Wincentego
20 7 Ср Тамаша, Czesława
21 8 Ч Пракопа, Benedykta
22 9 Пт Панкрата, Wawrzyńca
23 10 Сб Антона, Bogny
**24 11 Н Вольгі, Krystyny**
25 12 Пн Міхала, Jakuba
26 13 А Сцяпана, Anny
27 14 Ср Анісіма, Julii
28 15 Ч Уладзіміра, Wiktora
29 16 Пт Юліі, Marty
30 17 Сб Маргарыты, Ludmiły
**31 18 Н Емяльяна, Ignacego**

## ЖНІВЕНЬ — SIERPIEŃ

1 19 Пн Серафіма, Piotra
2 20 А *Ільі*, Gustawa
3 21 Ср Сымона, Lidii
4 22 Ч *Марыі Магдаліны*, Dominika
5 23 Пт Трахіма, Marii
6 24 Сб Хрысціны, Sławy
**7 25 Н *Ганны*, Doroty**
8 26 Пн Параскевы, Cypriana
9 27 А Панцяляймона, Romualda
10 28 Ср Ніканора, Borysa
11 29 Ч Калініка, Zuzanny
12 30 Пт Валянціна, Klary
13 31 Сб Юліты, Diany
**14 1 Н Макавеяў, Alfreda**
**15 2 Пн Сцяпана, Marii**
16 3 А Ісака, Joachima
17 4 Ср Яўдоцці, Anity
18 5 Ч Ноны, Heleny
19 6 Пт *Праабражэнне Гасподняе*, Bolesława
20 7 Сб Пімена, Bernarda
**21 8 Н Мірона, Joanny**
22 9 Пн Мацвея, Marii
23 10 А Лаўрэна, Filipa
24 11 Ср Хведара, Jerzego
25 12 Ч Фоція, Luizy
26 13 Пт Максіма, Marii
27 14 Сб Міхея, Cezarego
**28 15 Н *Успенне Багародзіцы*, Patrycji**
29 16 П Дыяміда, Sabiny
30 17 А Паўла, Róży
31 18 Ср Флора, Rajmunda

## ВЕРАСЕНЬ — WRZESIEŃ

1 19 Ч Андрэя, Bronisława
2 20 Пт Самуіла, Stefana
3 21 Сб Фадзея, Izabeli
**4 22 Н Апанаса, Rozalii**
5 23 Пн Ірынея, Doroty
6 24 А Пятра, Beaty
7 25 Ср Ціта, Reginy
8 26 Ч Наталлі, Radosława
9 27 Пт Пімена, Piotra
10 28 Сб Ганны, Aldony
**11 29 Н *Усячэнне Галавы св. Іаана Хрысціцеля*, Jacka**
12 30 Пн Аляксандра, Marii
13 31 А Генадзя, Eugenii
14 1 Ср Сымона, Bernarda
15 2 Ч Яна, Nikodema
16 3 Пт Анхіма, Edyty
17 4 Сб Майсея, Justyny
**18 5 Н Альжбеты, Irmy**
19 6 Пн Зянона, Konstancji
20 7 А Лукаша, Eustachego
21 8 Ср *Нараджэнне Прасвятое Дзевы Марыі*, Miry
22 9 Ч *Перанясенне мошчаў муч. Гаўрыіла*, Maurycego
23 10 Пт Клімента, Bogusława
24 11 Сб Хвядоры, Gerarda
**25 12 Н Юліяна, Aurelii**
26 13 Пн Пятра, Justyny
27 14 А *Уздзвіжанне Крыжа Гасподняга*, Damiana
28 15 Ср Мікіты, Marka
29 16 Ч Людмілы, Michaliny
30 17 Пт Веры, Zofii

 

# ДЗЕЦІ ВАЙНЫ

Чалавек наогул жыве не толькі сваім сённяшнім днём, але ўспамінае мінулае і думае пра будучыню. Ставіць сабе пытанні, што будзе заўтра, што паслязаўтра, што здарыцца праз год. Мае ён нейкія планы і намеры і свае актуальныя паводзіны ў нейкай меры падпарадкоўвае гэтым планам. Называецца гэта перспектыўным мысленнем і перспектыўнымі паводзінамі. Найчасцей чалавек стараецца нешта, ці то сабе, ці то сваім нашчадкам, прызапасіць. Белая Дама, міфічная персаніфікацыя смерці, якую таксама называюць Кастухай, калі яна існуе, пэўна мае такія ж самыя прыкметы, як і звычайны чалавек. І таксама, у час дастатку думае пра чорныя гадзіны, каб нешта сабе прызапасіць, каб не былі яны такімі чорнымі. І ў вайну, падчас сваёй трапезы, пакідае прыманкі для сваіх пазнейшых ахвяраў: а то недзе пад кусцікам, а то недзе пад мосцікам ці ў іншым зацішным месцы. Можа быць гэта цэлы склад боепрыпасаў, а можа быць толькі адна-аднюсенькая міна або граната. І многа гадоў пасля вайны, у мірны час, такі цуд могуць знайсці заблуканыя дарослыя ці, падчас гульні ў хованкі, дзеці. І несвядомыя, або свядомыя, але надта цікаўныя, не пакінуць заржавелага жалеза сапёрам, але захочуць пагуляць новай цацкай або заглянуць, што там у сярэдзіне. І найчасцей трапляюць на стол Белай Дамы і падмацоўваюць яе, калі малавата тых з-за старасці ці цяжкой хваробы.

Здарылася гэта і двум брацікам некалькі гадоў пасля вайны. Не спазнаўшы турбот і клопатаў дарослага жыцця, яны ў адзін міг бестурботна адправіліся туды, куды іншыя дабіраюца многія гады ці то ходзячы за плугам, ці седзячы за рулём, ці лежачы ў шпітальным ложку. Бацькам жа іх — гэта чорнае гора і вялізная рана на душы. Раны наогул зажываюць; раней або пазней. Зажывала і бацькоўская рана, бо мелі яны лякарства, якое аблягчала іхнае цярпенне. Лякарствам гэтым была дачуся Маруся. Усе свае пачуцці аддавалі толькі для яе аднае. І люлюкалі яе, і баюкалі, і кармілі не малаком, а адной толькі смятанай. Расла Маруся бестурботна, вырасла на дзеўку, бацькі ж тым часам, прыгоіўшы свае раны, змагаліся, як і ўсе мы, з часам, і памаленьку старэлі. Цяжэй ужо было апрацоўваць гаспадарку і добра было б знайсці памагатага да работы, а заадно і мужа для Марусі, тым болей, што бацьку пачало пакідаць здароўе. Знайшоўся кавалер, праўда, з вельмі беднай сям'і, але затое працавіты, ціхі і пакорлівы. Згулялі вяселле і прыйшоў Мацей да Марусі ў прымы. Прыйшоў так, як стаяў, на ўсё гатовае, і мусіў кожнага дня на ўсё сабе заслужыць. Працаваў ён да вяселля на чыгунцы, працаваў там і пасля жаніцьбы, але цяпер дайшло яму абрабляць цэлую гаспадарку. Хваравіты цесць займаўся ўжо толькі лягчэйшай працай, у вольных хвілінах паганяючы прымака да цяжкай, час ад часу дубінкай зрэшты. І цешча кінула даіць кароў, бо было ўжо каму. Не, не дачусі Марусі даручыла яна свае красулі, але зяціку любімаму. І Мацей паспяваў зранку іх статачак і падаіць, і сена даць ці на пашу выгнаць, і свінні накарміць, і малако ў малочны пункт здаць і яшчэ палоску, пакуль на працу, узараць. А пасля працы таксама плуг, каса або сякера ці вілы. Аднаго толькі не рабіў — не варыў есці, бо гэтым, па-ранейшаму, займалася цешча. Займала яна гэту важную пасаду таму, што яна вельмі адказная: трэба ж ведаць, каму даць смятану, а каму вараную бульбу. Маруся гэтым не займалася, яна трымала сямейную касу і пастаянна наведвала навакольныя крамы: у вясковыя ездзіла на веласіпедзе, у мястачковыя — аўтобусам. У сям'і Марусі і Мацея, як і ў большасці сем'яў, сталі з'яўляцца дзеці. Нарадзілася, як гэта на вёсцы, аж чацвёра: Марак, Мілена, Міколка і Моніка. Дзеткі раслі-падрасталі, бабуля іх карміла, матуля адзявала. А бацька — што ж, бацька капаўся або ў зямлі, або ў гнаі. У сям'і было прынята, што толькі ён, прымак-парабак, можа займацца гэтым і ніхто болей. Ну а дзядуля расхварэўся так, што лекары з гарадской бальніцы адправілі яго дамоў, бо ўжо ніякай надзеі не бачылі. Купілі родныя труну, схавалі, каб не кідалася ў вочы, прывезлі старыкана і чакалі на сумны момант. Але Кастуха не мела апетыту і не спяшалася — яна ведае, што ад яе ніхто не ўцячэ — занялася сваімі іншымі справамі, пакідаючы старога на пазней. Акрыяў ён, пачаў хадзіць, і жонка з дачкою, каб не выявіў, што яму нарыхтавалі, загадалі Мацею труну патаемна парубаць і спаліць. Дзеці тым часам падрасталі і станавіліся кавалерамі і дзеўкамі. Мацей спраўляўся са сваёй непасільнай работай, але гады ляцелі і трэба было ўжо думаць пра нейкую падмену яму. Сыны, незнаёмыя з ягонай працай, да гэтай ролі не падыходзілі. Патрэбны быў новы прымак. Старэйшая дачка, Мілена, падрастала ўжо пад замужнія гады, і гэтую аказію трэба было выкарыстаць, тым болей што нябрыдкая яна была, а да таго паслухмяная ўладнай маці. Вясковыя хлопцы цікавіліся Міленай і, аднаму з іх, які здаваўся быць спакойным і паслухмяным, Маруся стварыла ўмовы, каб загнаць у вяселле. І ўсё ўдалося, Мілена зацяжарыла з Міхасём, згулялі вяселле і Міхась прыйшоў у прымы, так, як яго цесць Мацей. Была аднак розніца паміж імі: Міхась прыйшоў не з беднай сям'і, меў куды адступіць, да таго ж не быў так пакорлівы, як цесць. Калі нарадзілася дзіця і Маруся палічыла, што Міхась ужо папаўся ў яе рукі, сталася непрадбачанае. Хуткае дзіця без даспелага кахання не звязала Міхася з Міленай так моцна, каб маглі накінуць на яго прымацкае ярмо. Пакінуў ён дом, у якім меў стаць чарговым парабкам. Наняўся ён на працу ў мястачковым млыне, дзе яго сваяк быў кіраўніком. Агледзеўшыся, што план праваліўся, рашыла Маруся ратаваць хаця б даччынае замужжа. Паехала яна за зяцем і ўпрасіла яго вярнуцца да шлюбнай жонкі. Вярнуўся ён. Цяпер жа, каб ён зноў не ўцёк, трэба было абыходзіцца з ім як з яйкам і на ўсякі спосаб саладзіць яму жыццё. Вось аднойчы, калі ён, выпіўшы, ляжаў самотненька, Маруся пастанавіла прылегчы да яго, каб крыху абагрэць зяця. Не быў ён, аднак, настолькі п'яны, каб, пачуўшы побач цёплае цела, падсвядомыя гены не задзейнічалі, а маладое цела адмовіла іх волі. На гэты момант, як на няшчасце нейкае, напароўся і Мацей, які ўжо ўстаў, каб бегчы да кароў і свіней. Было аднак ужо запозна, каб прадухіліць новае жыццё. Зганьбаваны Мацей выйшаў на панадворак. Ды і Марусі было ўжо не па сабе. Адзеўшыся, выбегла яна на панадворак, прадчуваючы нядобрае. Не памылілася — Мацей падрэзаў сабе касою вены. Падняла яна дом на ногі, кінулася ратаваць Мацея. Хуткая дапамога забрала Мацея ў бальніцу.

Не помніць ён ужо калі, ці тады, калі ляжаў на панадворку, ці на санітарных насілках, ці на шпітальным ложку, паявілася перад ім Белая Дама. Не помніць таксама яе выгляду: ці мела яна вочы і вусны, ці не мела, помніць толькі, што было гэта нешта белае. І помніць, што яна тады яму сказала:

— Клікаў ты мяне, і вось я з'яўляюся. Я прымаю ўсе просьбы, хаця мяне клікаць не трэба, бо я пра кожнага памятаю — не здарылася мне яшчэ пра нікога забыцца. Знай, аднак, што не ўсе просьбы я здзяйсняю: я маю не толькі абавязкі, але, як і кожнае, падобнае на жывое, стварэнне, свае сімпатыі і антыпатыі. Я — істота жаночага роду і люблю тых, якія нечым прывабным вылучаюцца, асабліва ж тыя, якія маюць многа грошай і адвагу: можа быць гэта ўладальнік хуткага матацыкла ці гоначнага аўтамабіля, можа быць гэта чалавек бізнесу, які ездзіць хуткім цягніком або авіялайнерам ці толькі авіянеткай, можа быць гэта таксама пілот звышгукавога міга або фантома ці звычайны воін-герой. Я іх абслугоўваю з вялікай ахвотай і без чакання ў чарзе. А ты, прымача, не маеш ані грошай, ані адвагі для здзяйснення задуманага; бо нельга назваць адвагай царапанне сваіх рук касою, хутчэй гэта трэба назваць нязручнасцю недарэкі. Ды і чаго ж ты рвешся з вядомага ў невядомае? Ты ж павінен ведаць, што ўсякая цікавасць, ўсякае пазнанне дабра і зла не на карысць чалавеку, а на яго згубу. Прыглянься ж ты добра таму, што дзеецца на свеце і ты згодзішся са мною. Вось вучоныя намагаюцца пазнаць сакрэты свету і калі раскрываюць дзверы нейкай таямніцы, знаходзяць за імі яшчэ некалькі іншых дзвярэй у невядомае. Прывяду табе некалькі прыкладаў з шырокага белага свету. Вось астраномаў, якія спачатку зналі толькі нябесныя свяцілы, цікавасць завяла ў галактыкі, туманнасці ці чорныя дзіры і гэтым усім навінам не відаць канца-краю.

Фізікі вось, пачалі прыглядацца элементарнаму атому, ды ўбачылі там не толькі пратоны і электроны, але яшчэ нейкія мезоны, ці фатоны, канца пераліку якіх няма надзеі ўбачыць. Інфарматыкі, усё, што ўбачаць, уводзяць у камп'ютэры, і чым болей дадзеных увядуць, тым болей яшчэ, аказваецца, трэба ўвесці. Біёлагі заглянулі ў жывую клетку, адкрылі там розныя бялковыя структуры і запуталіся ў іх, быццам у крытскім лабірынце. Лекары вынайшлі лякарствы на многія хваробы, але гэтыя лякарствы, што лечылі адны хваробы, выклікалі новыя, на якія не толькі цяжка знайсці нове лякарства, але нават цяжка пазнаць іх прыроду. Прывяла я табе некалькі прыкладаў, якія паказваюць, што цікавасць — бязсэнсная, а цікаўнікі ствараюць сабе толькі цяжкасці, быццам той Сізіф, які коціць снежны ком на бесканечную гару, і праблемы, быццам той багацей, які назбіраўшы мноства грошай, начамі не спіць, думаючы, куды іх схаваць. Знай таксама, што трэба ведаць і вучонаму, і невучонаму, што ўся праўда пра Сусвет напісана ўжо даўно ў старых кнігах. Цэлы гэты ваш белы свет — гэта далікатная шкарлупіна, астравок жыцця, які плыве ў моры хаосу, з якога быў створаны Словам. Усе даследчыкі, прыклады якіх я табе прывяла, пераконваюць аб гэтым. Кожнае іх адкрыццё — гэта выяўленне штораз большага хаосу. Кожны іх даслед разрывае далікатную абалонку, якая аддзяляе ваш далікатны белы свет ад бездані і нішчыць высілак Таго, хто гэтую абалонку зацягнуў. Цікаўнікі, уводзячы, быццам тая Пандора, хаос ва ўстаноўлены Словам Парадак, нішчаць гэты Парадак, гэтае адно-аднюсенькае месца ў бездані, у якім тліцца іскрынка вашага жыцця. Калі прыходзіць на іх пара, я забіраю іхнія душы і праводжу цераз тыя прорвы, якія яны самі зрабілі, ў цёмную бездань, і блукаюцца гэтыя іхнія душы па сваіх туманнасцях, мезонах, храмасомах і пухлінах, не знаходзячы нідзе сабе месца. Калі аднак я маю перад сабою істоту, якая толькі цешыцца прыгажосцю Сусвету і захапляеца Словам, якое гэтую прыгажосць стварыла і якая гэтаму беламу свету не шкодзіць і не стварыла сабе прорвы ў цемру, праводжу я яе душу нават цераз ігольнае вуха ў светлую райскую вечнасць. Вяртайся, прымача, на свой белы свет і ведай, што нічога прыгажэйшага нідзе няма. Маеш там усе ўмовы, каб цешыцца тым, што табе дадзена: удыхаеш пах рыхленай сырой зямелькі, калі сонейка ўзыходзіць, пах расы, калі косіш траву, пах сена, калі яго ўбіраеш і маеш радасць ад таго, што даеш пажыву каровам і свінням. І ведай таксама, што твая сям'я не паедзе ні на веласіпедзе, ні на аўтобусе, пакуль не паездзіць на тваёй спіне.

Сказаўшы гэтае, яна быццам бы знікла, быццам бы замянілася ў некалькі белых постаццяў, адна з якіх сказала: „будзе жыць". Быццам цераз імглу Мацей убачыў, як яны адвярнуліся і выйшлі. Адкрыў вочы і ўгледзеў наб сабою бутэльку, у якой нешта памаленьку булькала. У бальніцы яго адратавалі і ён зноў вярнуўся дадому.

Міхась, яго зяць, працверазеўшы, пакінуў няшчасны дом. Не затрымала яго, бо і не магло затрымаць, другое дзіця, якога спадзявалася Мілена, яго жонка; пасля таго, што сталася п'янай ноччу, не затрымаў бы яго і табун дзяцей. Калі Мацей вярнуўся з бальніцы, падалася да гарадскіх дахтароў яго жонка Маруся. Забрала яна з сабою ўсе грошыкі, якія меліся дома, бо цяперака тое яе лячэнне дорага каштуе. І вылячылася яна. Не лечыла аднак сваёй дачкі ад той жа самай „хваробы". Што чакае цяпер Мілену з дзецьмі, ці не бедная самотнасць, якой дасведчыў яе бацька? Умее яна, праўда, шыць і, будзь іншы час, парадзіла б сабе. Пасля вайны самотныя краўчыхі зараблялі на хлеб для дзетак, шыючы то адзенне, то пасцель для сваіх суседзяў ці сваякоў. Тады ніхто не прывозіў моднага адзення ні з Турцыі, ні з Тайланда. А цяпер хто схоча насіць адзенне, пашытае вясковай краўчыхай? Моладзь ірвецца ў горад, а старэчы данощваюць тое, што прывозяць ім дзеці, апаражняючы свае гарадскія шафы. Пакуль што, Мацей зноў працуе на ўсю сям'ю. А Міхась выехаў аж у горад, знайшоў там сабе нейкую дзяўчыну і жыве з ёю. А ягоныя дзеткі, выгнаныя руплівай бабуляй з ціхага нябыту на неспакойны белы свет, абымаюць і цалуюць сваю бабулю-дабрадзейку.

**АЛЕСЬ ЛАЗОЎСКІ**

*АЎРОРА*

## ЦЁМНЫ ВЕЧАР

У асенні цёмны вечар
Ўсё халодны вее вецер.
Цяжка, сумна на душах,
Ад выцця баліць ў вушах.

Гэта крык душы дзядоў,
Што злуюцца на ўнукоў:
Адракліся што свабоды,
За выгоду і для моды.

Адцураліся ад ляку:
Ужо лепей быць палякам,
Ужо лепей быць чужынцам,
Рускім, немцам, украінцам!..

Баязліўцы, пачакайце:
Кары вы дачакаеце,
І прыйдзецца пасля смерці
Блукацца па белым свеце!

Прыйдзецца вам стагоддзі
Шукаючы месца, бродзіць.
Нідзе вам месца не будзе,
З душамі без веры людзям!

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

З вучнёўскай творчасці

## КАЛЯДА

Ёлка зялёная з лесу прыйшла
і за сабою пах лясны прынясла.
А мы яе ўбіраем,
Каляду вітаем.
Ёлка — уцеха дзяцей,
А свята вялікае для ўсіх людзей.
Тады нарадзіўся Сынок Божай Маці.
І ляжыць на сене ўсіх людзей шчасце.

ЮРКА БУЙНЮК,
Маліннікі

## ЯК ДЭКЛАМАВАЛІ Ў НАРВЕ

14 снежня 1993 года ў Гмінным асяродку культуры ў Нарве сабраліся вучні і настаўнікі беларускай мовы з пачатковых школ у Трасцянцы, Нарве, Крыўцы і ў Ласінцы. У 11 гадзін пачаўся гмінны дэкламатарскі конкурс „Роднае слова". Вяла яго кіраўнічка нараўскай публічнай бібліятэкі Аля Сяткоўская. Маладых дэкламатараў слухала журы: Ліля Хіліманюк, Аляксей Мароз і Янка Целушэцкі (старшыня).

Настаўнікі вельмі добра падрыхтавалі моладзь да конкурсу. Удзельнічаць у ім было многа ахвотных, і гэта цешыць. Цешыць, што дзеці не цураюцца роднай мовы. Як жа прыемна было слухаць беларускія мастацкія творы ў добрым выкананні, і да таго — на фоне выстаўкі адметных ручнікоў з беларускай вышыўкай ды з нацыянальным арнаментам.

У групе вучняў з класаў VI—VIII журы найвышэй ацаніла дэкламатарскія здольнасці: **Гражыны Ахрымюк** з Пачатковай школы ў Крыўцы (I месца), **Кацярыны Максімчук** з ПШ у Трасцянцы (II месца) і **Эвы Іванюк** з ПШ у Нарве (III месца). У групе наймалодшых дзяцей (класы II—V) найлепш зарэкамендавалі сябе: **Аня Садоўская** і **Эвеліна Кучэўская** з ПШ у Нарве — занялі яны два раўнапраўныя першыя месцы, **Мажэна Мінько** з ПШ у Ласінцы (II месца) і **Анэта Леановіч** з ПШ у Нарве (III месца). Усе прызаваныя вучні возьмуць удзел у раённым аглядзе, які адбудзецца ў першай палове студзеня 1994 года ў Беларускім ліцэі ў Гайнаўцы. Жадаем ім поспехаў!

На заканчэнне хацелася б падаць прозвішчы вучняў, якіх журы прызнала лепшымі дэкламатарамі. Вось яны: **Аня Шарэйка, Дзіяна Яканюк** і **Беата Іванюк** — усе з Нарвы, а таксама **Багуслава Паскробка** з Ласінкі.

Вялікае дзякуй Ірэне Шастай і Анне Андраюк з ГОКу за дапамогу ў правядзені конкурсу, за вельмі прыгожыя дыпломы. Дзякуй Беларускаму ліцэю ў Гайнаўцы за цікавыя беларускія кніжкі, якія прадстаўнікі журы ўручылі як узнагароды ўсім дэкламатарам.

ЯНКА ЛЯЎКОЎСКІ



*Елка ў лесе — і яна ў навагоднім убранні.*

Фота У. Завадскага

## ПАДАРУНАК ДЗЕДА МАРОЗА

Марозным перадnavaгоднім вечарам Пятрок гуляў на вуліцы. У вокнах дамоў запальваліся каляровыя агеньчыкі ёлак. Усе рыхтаваліся сустракаць Новы год.

„Цікава, які падарунак знайду я заўтра пад ёлкай?" — падумалася хлопчыку.

Раптам ён пачуў жаласнае скавытанне. Затрымаўся, азірнуўся. Пад ліхтаром сядзеў невялічкі сабачка. Ён увесь дрыжаў.

„Узяць бы цябе дадому... Але што скажа мама?" — падумаў Пятрок, страсаючы снег з сабачай поўсці.

Непадалёк спыніўся аўтамабіль, і з яго выйшаў Дзед Мароз у доўгім вышываным кажуху. У руках ён трымаў блакітнага шчанюка з клятчастым бантам на шыі.

Побач з Дзедам Марозам адразу ж аказалася дзяўчынка Оля. Яна не зводзіла вачэй з прыгожай цацкі.

— Скажы мне, хлопчык, — звярнуўся Дзед Мароз да Петрака як да старэйшага, — дзе тут дом нумар семнаццаць?

— У двары. Я там жыву. А вы часам не да нас? Можна, я скажу вам штосьці па сакрэту?

Пятрок адвёў Дзеда Мароза крыху ўбок, і яны колькі хвілін пра нешта шапталіся. Пасля Дзед Мароз падышоў да змерзлага сабачкі, узяў яго на рукі і ад'ехаў. А Пятрок выняў з-з пазухі цацачнага шчанюка і працягнуў яго Олі:

— Бяры. Ён жа табе вельмі спадабаўся.

Вечарам, калі Пятрок разам з мамай і татам упрыгожваў ёлку, у кватэру пазванілі. Гэта прыехаў Дзед Мароз!

— Віншую вас з Новым годам! Жадаю шчасця і радасці! — сказаў ён з парога. — А гэта падарунак вашаму сынку. — І Дзед Мароз апусціў на падлогу сімпатычнага сабачку з клятчастым бантам.

—Гаў! Гаў! — весела забрахаў той.

Мама вельмі здзівілася. Яна лічыла, што Дзед Мароз ніколі не прыносіць жывых падарункаў. А тата сказаў: „Пад Новы год і не такія дзівосы бываюць..."

НАТАЛЛЯ ГРАМЫКА

ВІКТАР ШВЕД

## НАВАГОДНІЯ ПАЖАДАННІ

Стары год на зямной планеце
Сваё закончыў панаванне.
Якія ж, дарагія дзеці,
Вам скласці ў Новым пажаданні?

Хацелася б, каб годзік Новы
Ажыццявіць змог вашы мары,
Каб вам прынёс абавязкова
Усмешку, шчасцейка на твары.

Каб вам хацелася вучыцца
Заўжды на добрыя адзнакі,
Бацькі маглі каб ганарыцца
Вамі з сардэчнаю падзякай.

Каб кожны Новага дзень года
Не быў дарэмнай часу стратай —
Аб тым трэ памятаць заўсёды
У Навагодняе ўжо Свята.

*1. I. 1994 г.*

* * *

## НОВЫЯ ПРАВІЛЫ

Настаўніца белмовы
Спытала ў школе Мішу:
— Скажы, калі мы словы
З вялікіх літар пішам?

Мы пішам не малымі
Тады вось, не іначай,
Як дрэнна ў нас з вачыма,
Калі мы слаба бачым.

## СЫНОК ЗАЎСЁДЫ Ў ЦЭЛЬ ТРАПЛЯЕ

Прыбег задыханы Сцяпан
Са скаргаю і абурэннем:
— Ваш сын страшэнны хуліган,
Кідаў ён у мяне каменнем!

— А ці ён сапраўды папаў?
— Таго яшчэ мне не хапае!
— Гэта не быў мой Яраслаў;
У цэль заўсёды ён трапляе.

## КАСЕТУ ЗАПУСЦІЎ ВАЛЕРЫК

У хаце голасна страшэнна,
Дрыжаць ад гулу столь і сцены.
Касету запусціў Валерык.
Тата пытаецца праз дзверы:

— Ты новую купіў касету,
Ці столь абвальваецца гэта?
Сынок адказвае з пакоя:
— Адно, татулька, і другое.

## КОЛЬКІ ГАДКОЎ ТАБЕ, МІКОЛА?

Бацькі спыталіся сыночка:
— Ці ведаеш ты ўжо, Мікола,
Колькі табе цяпер гадочкаў,
І калі трэба ісці ў школу?

— Ужо я збіўся з панталыку,
Не ведаю, як быць павінна,
Дайсці мне цяжка гадкоў ліку,
Усё ж мяняецца няспынна.

## ТОМАС ЭДЫСАН

Настаўнік фізікі паклікаў
Да дошкі ўдумлівага Пецю:
— Хто вынаходнікам вялікім
Праславіўся дасюль на свеце?

— Дык Томас Эдысан, вядома,
Не можа быць ніякай спрэчкі.
Калі б не ён, глядзелі б дома
Мы тэлебачанне пры свечках.

## НЕЧАКАНА ПАСЛУХМЯНЫ

Сынка пытае ў хаце матка:
— Не выдурняўся на занятках?
На ўроках ты не размаўляў?
Дзяўчат за косы не цягаў?

Ты вучням за каўнер паперак
Не пхаў ад з'едзеных цукерак?
— Не мог, — пачула ад сыночка, —
Стаяў на ўроках у куточку.



*Размалюйце палі з кропкамі і ўбачыце, хто прыйшоў паласавацца да лясной кармушкі*

## Лагагрыф

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | | | |
| 2 | | | | | | | | |
| 3 | | | | | | | | |
| 4 | | | | | | | | |
| 5 | | | | | | | | |
| 6 | | | | | | | | |
| 7 | | | | | | | | |

1. зброя сярэдневяковых рыцараў, 2. частка ЗША, напр. Каліфорнія, Фларыда ці Аляска, 3. узнагарода пераможцы спаборніцтва, 4. колішняя сталіца Польшчы, 5. сталіца Польшчы, 6. вучань, 7. прыбор, які дазваляе аглядаць вельмі малыя дэталі.

Вылучаныя літары складуць назву беларускага народнага танца.

## ЦІ ЗАГІНЕ НАША ЗЯМЛЯ ?..

У свеце штогод адбываецца 5,5 мільёна пажараў.

Унутры салона аўтамабіля канцэнтрацыя шкодных рэчываў вышэй, чым на ўзбочыне дарогі.

У неспрыяльных умовах працуюць людзі: пры павышанай запыленасці і загазаванасці паветра, пры павышаным узроўні шуму, пры недастатковай асветленасці.

Сярод гародніны максімальную колькасць ртуці ўтрымлівае салата, мінімальную — цыбуля.

За апошнія сто гадоў плошча лясоў на планеце скарацілася ўдвая. Штогод знікае ў сярэднім па 12 мільёнаў гектараў усюды: у Еўропе, Азіі, Афрыцы, Амерыцы.

А вось у Швецыі за гэты ж час плошча лясоў павялічылася ўдвая. Кожны год у краіне саджаюць 600 мільёнаў дрэваў. У пераліку на душу насельніцтва атрымліваецца па дрэву ў тыдзень. Вось у чым сапраўды высокі ўзровень жыцця, а не толькі ў дзесяці доларах, якія зарабляе сярэднестатыстычны швед за адну гадзіну.

Штогод у Паўночнай Амерыцы ад свінцовага атручэння гіне 1,5—2,5 мільёна качак, што дзёўбалі паляўнічы шрот.

БЕАТРЫС ПОТЭР

# КАЗКА ПРА ДЖЭМАЙМУ КАЧКУ-З-ЛУЖЫНЫ

Праўда ж, вельмі цікава ўбачыць курыцу, за якой бяжыць цэлы вывадак качанят.

Калі вы згодны са мною, дык паслухайце гісторыю, што здарылася з Джэмаймай Качкай-з-Лужыны, якой фермерава жонка не дазваляла самой выседжваць яйкі.

Джэмайма была гэтым вельмі незадаволеная.

А вось яе кузіна, місіс Рэбэка, наадварот, — заўсёды была гатовая аддаць свае яйкі якой-небудзь іншай квактусе. І яна часцяком казала Джэмайме:

— Ах! У мяне ніколі не хопіць цярпення праседзець на яйках аж дваццаць восем дзён запар! І ў цябе таксама не хопіць, даражэнькая мая. Павер, ты ўсё роўна застудзіш яйкі.

— А вось і не! Я хачу і буду сама выседжваць свае яйкі, сама, разумееш?! — упарта кракала Джэмайма ў адказ.

Неаднойчы яна старалася схаваць свае яйкі ад гаспадыні, але тая ўсё роўна знаходзіла іх і заўсёды забірала.

Джэмайма Качка-з-Лужыны была ў роспачы. І нарэшце, яна вырашыла зрабіць гняздо ды вывесці качанят дзе-небудзь па-за межамі фермы.

Аднойчы, цудоўным вясеннім поўднем, Джэмайма рушыла ў дарогу. Яна ішла да бліжэйшага ўзгорка. І трэба адзначыць, што хоць яна і спяшалася, але не забылася накінуць шалік ды надзець аздоблены карункамі каптурок.

Забраўшыся на вяршыню ўзгорка і крыху аддыхнуўшыся, Джэмайма агледзелася. Непадалёк яна ўбачыла лес. Ёй здалося, што ў гэтым лесе яна знойдзе ціхі ўтульны куточак, зробіць гняздо і знясе яйкі.

Вядома, Качкам-з-Лужыны не часта даводзілася лятаць, і таму Джэмайма спачатку прабегла некалькі ярдаў уніз з пагорка і ўжо тады ўзнялася ў паветра. Старт быў добры, і яна ляцела выдатна.

Качка даволі доўга кружыла над вершалінамі дрэваў, пакуль не заўважыла ў самай сярэдзіне лесу прагаліну, дзе не было ні дрэў, ні хмызняку.

Джэмайма прызямлілася і, цяжка перавальваючыся, пайшла шукаць утульнае сухое месца для гнязда. Яна ўпадабала пень, які хаваўся ў густым наперстаўкавым зарасніку. Утаропіўшы вочы ў зямлю, качка пакрочыла да пня. Уявіце сабе, якім было яе здзіўленне, калі, падышоўшы бліжэй, яна ўбачыла, што на ўпадабаным ёю пні сядзіць элегантна апрануты джэнтльмен і чытае газету.

У яго былі маленькія чорныя вушкі тарчма і раскошныя рудыя бакенбарды.

— Кра?! — прамовіла Джэмайма Качка-з-Лужыны, нахіліўшы галаву ў прывабным каптурку набок. — Кра?!

Джэнтльмен адарваўся ад газеты і зацікаўлена зірнуў на Джэмайму.

— Мадам, вы напэўна збіліся з дарогі? — ветліва запытаўся ён.

У яго быў доўгі пушысты хвост, на якім ён і сядзеў, бо пень быў крыху сыраваты.

Джэмайма вырашыла, што джэнтльмен вельмі выхаваны і сімпатычны. Таму яна з гатоўнасцю распавяла, што зусім не заблудзіла, а наадварот, шукае якое добрае месца, прыдатнае для гнязда.

— Ах! Дык вось у чым справа? Ну, сапраўды! — азваўся джэнтльмен з рудымі бакенбардамі, не зводзячы поўнага зацікаўлення позірку з Джэмаймы. Ён акуратна згарнуў газету і сунуў яе ў кішэню свайго шыкоўнага фрака.

Ледзь не плачучы, Джэмайма паскардзілася на курыцу, якой даручылі выседжваць качыныя яйкі і якая вельмі гэтым ганарылася, а потым выхвалялася сваімі цудоўнымі качанятамі.

— Ды што вы кажаце, мадам?! Няўжо такое магчыма? — абурыўся джэнтльмен. — Я вельмі хацеў бы сустрэцца з гэтаю нахабнаю асобай. Мяркую, што здолеў бы навучыць яе добрым манерам.

— А што да гнязда, — дадаў пушысты даўгахвосты джэнтльмен, — дык ніякіх праблемаў: у маёй адрыне поўны мех мяккага пер'я. Цёпла і суха. І вы нікому не будзеце замінаць, мая дарагая, ніхто вас там не патурбуе. Сядзіце сабе, колькі трэба.

І ён правёў Джэмайму да невялічкай адасобленай, крыху змрочнай хаткі, схаванай ў хмызняку. Хатка была пабудаваная з дзірвану ды сухога галля. На страсе былі ўмацаваныя два дзіравыя вёдры, пастаўленыя адно на адно, відаць, у якасці коміна.

— Гэта мая летняя рэзідэнцыя, — растлумачыў гасцінны гаспадар. — Мая нар..., я хачу сказаць, мая зімняя рэзідэнцыя не такая выгодная.

Побач з хаткай стаяла адрына, пабудаваная са старых скрынак з-пад мыла. Джэнтльмен адчыніў дзверы ў адрыну і прапусціў ў яе Джэмайму.

Адрына была амаль да самага верху поўная пер'ем, нават дыхаць было цяжка, але ўсярэдзіне было сапраўды ўтульна, вельмі мякка і цёпла.

Джэмайма Качка-з-Лужыны крыху здзівілася такой колькасці пер'я, але лепшага месца пад гняздо і жадаць было нельга. Яна хуценька і без аніякіх цяжкасцяў зрабіла чароўнае гняздзечка.

Калі яна выйшла, джэнтльмен з рудымі бакенбардамі сядзў на бервяне і чытаў газету — прынамсі, газета была разгорнута, хоць качцы чамусьці падалося, што ён пільна глядзіць некуды паверх яе.

Гаспадар паводзіў сябе вельмі ветліва, і Джэмайме нават падалося, што яму шкада адпускаць яе нанач дадому. Ён запэўніў Джэмайму, што будзе вартаваць гняздо, пакуль яна не вернецца. Ён сказаў, што горача любіць яйкі і маленькіх качанятак і што для яго вялікі гонар мець у сваёй адрыне сапраўднае качынае гняздо.

Джэмайма прылятала кожны дзень. У гняздзе ўжо было дзевяць яек. Усе яны былі бела-зялёнага колеру і вельмі вялікія. Даўгахвосты джэнтльмен з захапленнем глядзеў на іх. Калі Джэмаймы не было побач, ён па некалькі разоў на дзень пераварочваў іх і пералічваў.

І вось настаў дзень, калі Джэмайма паведаміла, што наступным ранкам збіраецца сядаць на гняздо.

— Я прынясу з сабой мяшэчак з зернем, бо пакуль не вулупяцца качаняты, мне нельга будзе пакідаць гняздо. А іначай я магу застудзіць яйкі, — сказала сумленная Качка-з-Лужыны.

— Мадам, я не магу дазволіць, каб вы турбаваліся з-за нейкага там зерня. Я сам паклапачуся і пра авёс, і пра пшаніцу. Але перш, чым вы распачнеце сваю цяжкую, але такую неабходную працу, я хацеў бы наладзіць сціплую святочную вячэру. Запрашаць нікога не будзем, толькі вы ды я. Я сам усё прыгатую, а вас прашу толькі прынесці сякія-такія зёлкі з агарода — каб было чым прыправіць амлет... Так, так, ну, што ж нам трэба? Шалфей, чабор, мята, дзве цыбуліны і, безумоўна, пятрушка. А тлушч для..., э..., для амлету я знайду сам, — прапанаваў шчыры гаспадар з рудымі бакенбардамі.

Даверлівая Джэмайма з радасцю пагадзілася. Яна нічога не западозрыла, нават калі джэнтльмен узгадаў пра шалфей і цыбулю.

Джэмайма хадзіла па агародзе і збірала розныя зёлкі, патрэбныя, каб смачна прыгатаваць запечаную фаршыраваную качку. Нарэшце яна зайшла на кухню па пару цыбулін, што ляжалі ў кошыку.

Калі Джэмайма выходзіла з кухні, яна напаткала сабаку-колі якога звалі Кэп.

Кэп сурова спытаў:

— Навошта табе гэтая цыбуля? І куды ты знікаеш кожны дзень зусім адна? А ну, адказвай, Джэмайма Качка-з-Лужыны.

Небарака Джэмайма, якая заўсёды з глыбокаю пашанай ставілася да Кэпа, адразу пра ўсё яму расказала.

Колі ўважліва слухаў, нахіліўшы набок сваю разумную галаву. Калі Джэмайма пачала з захапленнем распавядаць пра ветлівага джэнтльмена з доўгім пушыстым хвастом і рудымі бекенбардамі, Кэп ашчэрыўся.

Ён задаў яшчэ некалькі пытанняў пра лес ды пра месца, дзе знаходзілася хатка ветлівага джэнтльмена.

Потым Кэп развітаўся і пабег у вёску, каб перамовіцца з двума знаёмымі шчанюкамі фокстэр'ера.

Апошні раз Джэмайма ўзляцела з пагорка ў паветра. Ляцела яна цяжка — мяшэчак з зёлкамі ды цыбуляй цягнуў уніз.

Яна мінула лес і апусцілася на зямлю зусім побач з хаткай пушыстага джэнтльмена.

Той сядзеў на бервяне, нюхаў паветра і нервова азіраўся. Калі Джэмайма прызямлілася, ён ажно здрыгануўся.

— Давай хутчэй зёлкі, зірні на яйкі і адразу ідзі ў хату, — загадаў руды гаспадар.

Ніколі яшчэ ён не размаўляў з Джэмаймаю так рэзка. Яна здзівілася і адчула сябе неяк няўтульна. Ледзь яна паспела ўвайсці ў адрыну, як пачуліся ціхія асцярожныя крокі, і нехта з чорным носам зачыніў дзверы ў адрыну на зашчапку. Джэмайма вельмі напалохалася.

Не прайшло і хвіліны, як звонку пачуўся страшэнны шум: брэх, віск, гаўканне, рыканне, выццё, скавытанне...

І ўжо ніколі болей не давялося Джэмайме сустрэца з ветлівым джэнтльменам, у якога былі такія шыкоўныя рудыя бакенбарды і доўгі пушысты хвост.

Кэп адчыніў дзверы і выпусціў з адрыны Джэмайму Качку-з-Лужыны.

На вялікі жаль, ён не паспеў утрымаць шчанюкоў, і яны, уварваўшыся ў адрыну, у імгненне вока паглыталі ўсе Джэмайміныя яйкі.

У Кэпа было разадранае вуха, а абодва шчанюкі пакульгвалі.

Джэмайму ў слязах эскартавалі дадому. Усю дарогу яна лямантавала па сваіх загубленых яйках.

У чэрвені яна зноў нанесла яек, і на гэты раз ёй дазволілі іх выседжваць. Але вылупілася ўсяго чацвёра качанятак.

Джэмайма казала, што гэта з-за яе сапсаваных нерваў, але ўсе на ферме ведалі, што квактуха з яе заўсёды была не найлепшая.

*Пераклала з англійскай*
*АЛЕНА АРЛОВА*

## СВЯТАЯ ВЕЛІКАМУЧАНІЦА АНАСТАСІЯ

Паходзіла Яна з сям'і славутых рымлян. Яе бацька быў язычнікам, а маці — падпольнай хрысціянкай. Менавіта маці выбрала сваёй дачцэ настаўніка, які аказаўся хрысціянін Хрысагон. Разам з элінскай навукай перадаў ён Святой Анастасіі веданне Свяшчэннага Пісання і любоў да Бога і бліжніх.

Пасля смерці маці бацька аддаў Яе замуж за багатага рымляніна Памплія. Жаніцьба адбылася насуперак волі Святой Анастасіі, але Ёй пад выглядам нявылечнай хваробы ўдалося захаваць дзявоцтва. З любові да бліжніх пераапранальася Яна за бедную жанчыну і ў кампаніі служанкі наведвала турмы, дзе карміла і лячыла зняволеных, якія пакутавалі за веру ў Хрыста, падтрымоўвала іх добрым словам і ўмацоўвала іх у веры. Турэмныя брамы адчыняліся, дзякуючы грошам Святой. Муж, даведаўшыся пра яе другое жыццё, стаў думаць як пазбавіцца жонкі і, адначасна, як захапіць багацце, якое атрымала Яна ў спадчыне пасля смерці бацькі. Неўзабаве Пампілій падаўся ў службовае падарожжа ў Персію і ўтапіўся падчас шторму. Аўдавеўшы, Святая Анастасія поўнасцю прысвяціла сябе службе зняволеным хрысціянам. Вандравала Яна ад горада да горада і, дзякуючы свайму маёнтку, многіх хрысціян вызваліла з турмы, за што атрымала званне — Узорешительница. У тым часе ў турму ў Аквілеі папаў Яе настаўнік Хрысагон.

У гадах 284—305 праходзіла апошняе, але найбольш лютае праследаванне хрысціян пры рымскім імператары Дыяклетыяне. Загадаў ён за адну ноч умерціць усіх хрысціян у турмах. Набліжаўся таксама час пакутніцкай смерці Святой Анастасіі. Схапілі Яе ў Іліры (рымскай правінцыі на ўсходнім узбярэжжы Адрыятычнага мора, сёння гэта Далмацыя) і пасадзілі ў турму. Намаганні начальніка правінцыі прымусіць Св. Анастасію адрачыся ад хрысціянства аказаліся безвыніковымі. Потым прыгаварылі Яе да галоднай смерці, але голад не нанёс Святой шкоды, тады загадалі ўтапіць Яе ў моры разам з асуджанымі злачынцамі, але карабель з прабітым дном у цудоўны спосаб прычаліў да берага. Нарэшце Св. Анастасію распялі паміж чатырма слупамі над вогнішчам. Яе цела, не пашкоджанае агнём, нейкая жанчына Апалінарыя пахавала ў садзе. Здарылася гэта ў 304 годзе. У V стагоддзі мошчы Святой былі перанесены ў Канстанцінопаль. Потым галаву і руку Велікамучаніцы перанеслі ў манастыр Яе імя непадалёку Святой Гары Афон.

Памяць Святой Велікамучаніцы Анастасіі ўшаноўваем 4 студзеня (22 снежня па старому стылю).

С. Н.

## VI УСЯЛЕНСКІ САБОР — КАНСТАНЦІНОПАЛЬ, 680-681 г. г.

Пасля V Усяленскага Сабора спрэчкі монафізітаў працягваліся. Імператар Іраклій хацеў здабыць прыхільнасць монафізітаў і, падмоўлены некаторымі епіскапамі, вырашыў прымусіць праваслаўных прызнаць у Хрысце дзве натуры, але толькі адну волю — Боскую. Новая ерась была названа монафелітызмам. Гэтымі палітычнымі прыёмамі не захапіліся ні монафізіты, ні праваслаўныя. У справе абароны чысціні веры і растлумачэння сапраўднай навукі Царквы асабліва заслужыліся Сафроній — іерусалімскі патрыярх і Максім Іспаведнік — канстанцінопальскі манах. Гэтаму апошняму за тое, што нязменна і непахісна прытрымліваўся сапраўднай веры, вырвалі язык і адсеклі руку.

VI Сабор (называны таксама Трульскім) скліканы быў пры імператары Канстанціне Паганаце ў 680 годзе. На ім асудзілі монафелітызм і вырашылі, што ў Хрысце трэба прызнаваць дзве натуры — Боскую і чалавечую, а таксама дзве волі, з тым, што людская воля не пярэчыць Боскай і да нейкай меры ёй падпарадкоўваецца. У абрадах прыняло ўдзел 170 епіскапаў. Сабор закончыў працу ўжо ў 681 годзе.

Адзінаццаць гадоў пазней, у 692 годзе гэты Сабор аднавіў свае абрады. Завуць яго пята-шостым або Трульскім II (ад назвы палацавай святліцы). Быў ён папаўненнем V і VI сабораў і ўстанавіў 102 каноны. Зацвердзіў ён усе папярэднія каноны — Апостальскага, 6 усяленскіх і 7 памесных сабораў, а таксама адобрыў каноны 13 Айцоў Царквы. Потым былі яны папоўнены канонамі VII Усяленскага і двух памесных сабораў і стварылі г. зв. Новаканон — Кормчую кнігу. У ёй змешчаны законы і правілы, якія з'яўляюцца падставай кіравання Царквой. На Саборы былі асуджаны таксама некаторыя навінкі, уведзеныя Рымскай царквою, але нязгодныя з духам рашэнняў Усяленскай Царквы. Датычылі яны, між іншым, увядзення забароны жаніцьбы для дыяканаў і сятараў, раздзелу тайнаў хрышчэння і мірапамазання, нашэння персценяў епіскапамі рымскімі, галення барады і іншых.

С. Н.

## МУЗЫКУ АДЧУВАЮЦЬ ДУШОЮ

Хор Праваслаўнай парафіі Святой Тройцы ў Гайнаўцы — адзін з лепшых аматарскіх калектываў. Ужо чатырнаццаць гадоў вядзе яго айцец Міхал Негерэвіч. Хор спявае падчас набажэнстваў, а таксама выступае з канцэртамі для краёвых і замежных турысцкіх груп, якія з вялікім зацікаўленнем наведваюць гайнаўскі Святатроіцкі сабор. Кожны год хор удзельнічае ў Міжнародным фестывалю царкоўнай музыкі, на якім атрымоўвае дагэтуль высокую ацэнку міжнароднага журы. Слухалі яго самыя выдатныя музыкі-прафесіяналы.

Хор гайнаўскай парафіі ездзіў з канцэртамі ў Сейны, Высова і Горную Крыніцу, а таксама за мяжу — выступаў у Плёсе над Волгай і ў Маскве. Зрабілі таксама гастрольнае турнэ па Беларусі, Фінляндыі і Італіі.

Да хору належаць людзі з шырокага гайнаўскага асяроддзя. Любяць яны царкоўную музыку, якая не ведае межаў і дасягае Неба. Малітва ў выкананні харыстаў мае асабліва значэнне. Слухаючы малітоўны спеў, вернікі ў вялікай задуме перажываюць багаслужбу.

(яц)

Фота з архіва

## НЯДЗЕЛЯ СВЯТЫХ АЙЦОЎ

Называюць яе таксама **Нядзеляй перад Раждзаством Хрыстовым**, а святкуюць паміж 31 снежня і 6 студзеня (18—24 снежня па старому стылю). У набажэнствах у гэты дзень усхваляюцца старазапаветныя святыя, ад якіх Сваёй чалавечнасцю паходзіць Ісус Хрыстос. У Евангеллі на гэтую нядзелю чытаецца радаслоўная Хрыста: „Кніга роду Ісуса Хрыста, Сына Давідавага, Сына Аўраамавага. Аўраам нарадзіў Ісаака; Ісаак нарадзіў Іакава; Іакаў нарадзіў Іуду і братоў ягоных; (...) І вось усіх пакаленняў ад Аўраама да Давіда чатырнаццаць пакаленняў; і ад перасялення вавілонскага да Хрыста чатырнаццаць пакаленняў. (...) Устаўшы ад сну, Іосіф зрабіў, як загадаў яму Ангел Гасподні, і прыняў жонку сваю, і не знаў Яе, пакуль нарадзіла Сына Свайго першароднага, і ён даў Яму імя: Ісус" (Мацфей, 1: 1-25). Разам з імі Царква ўспамінае, так як і ў нядзелю Святых Праайцоў, усіх старазапаветных святых, якія жылі з верай у надыход Месіі. Асабліва ўсхваляюцца ў царкоўных спевах Айцы, якія далі пачатак роду — Аўраам, Ісаак, Іакаў; тры юнакі ў печцы, якія сілай сваёй веры згасілі полымя і прарок Данііл, які прадвяшчаў Хрыста (Данііл, 7: 13-14; 9: 24-27).

У гэты дзень пачынаецца пяцідзённае „предпразднество", падчас якога абавязвае строгі пост, калі нават у нядзелю дазваляецца спажываць толькі алей. Словы песні: „приидите все, Христово Рождество верно предпразднуем" нагадваюць нам аб хуткім надыходзе гэтага свята.

С. Н.

**Pokwitowanie dla wpłacającego**

zł.

słownie złotych

imię, nazwisko, adres wpłacającego

Na rachunek:
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa"**
**Białystok, ul. Suraska 1**
**Bank PBK SA, I Oddział Białystok**
**370406-207917-132**

Data | Opłata zł.

podpis przyjmującego

**Odcinek dla posiadacza rachunku**

zł.

słownie złotych

imię, nazwisko, adres wpłacającego

Na rachunek:
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa"**
**Białystok, ul. Suraska 1**
**Bank PBK SA, I Oddział Białystok**
**370406-207917-132**

Data | Opłata zł.

podpis przyjmującego

**Odcinek dla poczty**

zł.

słownie złotych

imię, nazwisko, adres wpłacającego

Na rachunek:
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa"**
**Białystok, ul. Suraska 1**
**Bank PBK SA, I Oddział Białystok**
**370406-207917-132**

Data | Opłata zł.

podpis przyjmującego

## ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Калі хочаце, каб „Ніва" пастаянна трапляла ў вашу хату, падпішыцеся на яе ў рэдакцыі. Побач змяшчаем бланк, пры дапамозе якога можаце аформіць сабе падпіску. На гэтым бланку можаце таксама заказаць „Ніву" для сваіх родных або знаёмых за мяжой. Хопіць толькі выразаць бланк і чытэльна яго запоўніць.

Кошт падпіскі ў I квартале 1994 г. (разам з коштамі высылкі) такі:

— у Польшчы — 91.000 зл.,
— у Беларусь — 149.500 зл.,
— авіяпоштай у Еўропу — 188.500 зл.,
— авіяпоштай у ЗША і Канаду — 227.500 зл.,
— авіяпоштай у Аўстралію — 344.500 зл.

*Навагоднія вершы*

**НОВЫ ГОД**

Новы Год, Новы Год,
Што ты здзейсніць нам дазволіш?
Спадзяецца наш народ
Паляпшэння сваёй долі.

Каб наш у краіне лёс
Быў з палякамі аднакі.
Каб Год Новы нам прынёс
Больш пашаны ад палякаў.

Каб не трактавалі нас
Як зусім чужых, не кроўных,
Быццам нейкі горшы клас,
Каб нам жыць як роўны з роўным.

Каб не мусіў наш народ
Выракацца мовы роднай.
Каб дазволіў Новы Год
Жыць нам з годнасцю і згодна.

*1.I.1994 г.*
**ВІКТАР ШВЕД**

**НОВЫ ГОД**

Новы год прыйшоў,
Стары адышоў.
Будзем ісці, змагацца,
З лёсам не зміracца...

Сустракаем год.
Будзе шмат прыгод.
Гатуйся к падзеям
З верaю, з надзеяй.

А на першым месцы:
Каб любоў нам несці;
Каб у сэрцы змясцілася
Ірaкой разлілася!

Дык адкінем цень
Вечна — не на дзень;
Цень віны, пагарды
Таго ён і варты!

Беларусам быць
І шчаслівым жыць:
Шанаваць народ —
Беларускі род.

Недастатні быт
Пойдзе у нябыт.
Скарб наш — гэта Слова,
Беларуска мова!

Дык не пахісніся,
З Богам прымірыся,
Пасылай дзяцей
На урок хутчэй,

Дзе пазнаюць „Ніву",
„Зорку" не ляніву,
І Купалу, Шведа
І шмат розных ведаў.

Брат мой — беларус!
Цвёрды будзь, не трус!
Дык нясі свой сцяг:
Гонар — вечны шлях!

Дык мы ў Новым годзе
Пойдзем у паходзе;
Цесна згуртавацца
І не расслабляцца.

Наш паход ідзе,
Буры размяце.
У 1994 год
Ўзмоцніцца народ!

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

На працягу трох дзён, ад 9-га да 11-га снежня 1993 года праводзілася ў Варшаве II канферэнцыя польска-беларускае камісіі па справах дасканалення падручнікаў па гісторыі ў Польшчы і Беларусі. На чале польскай дэлегацыі стаяў прафесар Клачоўскі, на чале беларускай дэлегацыі — прафесар Біч.

Канферэнцыя праводзілася ў Інстытуце адукацыйных даследаванняў Міністэрства нацыянальнай адукацыі.

Беларуская дэлегацыя прывезла нававыдадзеныя падручнікі па гісторыі Беларусі для пачатковых і сярэдніх школ. Польскі бок прадставіў новыя падручнікі, выдадзеныя ў Польшчы ў апошніх гадах. Ішла таксама гутарка аб школьных праграмах па гісторыі, аб праектах новых падручнікаў.

Перамовы вяліся ў духу ўзаемаразумення нацыянальных традыцый, прынцыпаў і патрэб як польскага, так і беларускага бакоў.

На заканчэнне канферэнцыі быў прыняты пратакол, у які былі занесены канкрэтныя заўвагі беларускага боку да польскіх школьных праграм і падручнікаў па гісторыі. Заўвагі гэтыя тычыліся галоўным чынам перыяду Вялікага княства Літоўскага. Былі ўзяты пад увагу прэтэнзіі беларускага боку адносна таго, што ў польскіх школьных праграмах і падручніках па гісторыі часта замест акрэслення „Рэчыпаспалітая двух народаў" ужываецца „Польшча двух народаў", што заперэчвае сутнасці польска-беларуска-літоўскіх адносін у перыяд позняга сярэднявечча.

Другой прычынай рэакцыі беларускага боку было тое, што ў польскіх праграмах і падручніках па гісторыі вельмі часта на акрэсленне беларускай тэрыторыі ўжываецца слова не „Беларусь" і „беларускія", а толькі „Літва" і „літоўскія". Такога тыпу

## ПАДРУЧНІКАВАЕ ПАГАДНЕННЕ

агістарычная тэрміналогія ўжываецца не толькі да перыяду Сярэднявечча, але таксама да дзевятнаццатага стагоддзя. Беларускі бок праявіў паслядоўную станоўчасць у справе ўласцівай інтэрпрэтацыі Рыжскага трактата, у выніку якога прадстаўнікі Леніна і Пілсудскага не ўзялі ўвогуле пад увагу дзяржаўных аспірацыяў беларускага народа і падзялілі беларускую зямлю і яе народ на дзве часткі.

Выступілі яшчэ і іншыя справы, у трактоўцы якіх беларускі і польскі бакі мелі дагэтуль розныя пункты гледжання. Абодва бакі праявілі максімум добрай волі ў трактоўцы ўсіх пытанняў, звязаных з польска-беларускімі гістарычнымі адносінамі. Дзесятага снежня 1993 года беларускія госці наведалі Каралеўскі замак, у якім на працягу трох з паловай гадзін дэталёва знаёміліся з гэтым знакамітым гістарычным помнікам. Беларускія госці перад усім цікавіліся тымі аспектамі польскай гісторыі, якія так ці інакш былі павязаны з гісторыяй Беларусі.

Я асабіста ад членаў беларускай дэлегацыі даведаўся аб адной вельмі цікавай з'яве. Сказалі яны, што ў Беларусі ў апошні час быў выдадзены падручнік па гісторыі Беларусі для сёмага класа. На сто дваццаць тысяч, вучняў-сямікласнікаў было выдадзена дзвесце дваццаць тысяч экземпляраў падручніка. Нягледзячы на вялікую кольскасную перавагу тыражу над колькасцю вучняў, нідзе сёння ў кніжных магазінах нельга купіць гэты падручнік. Значыць, беларускае грамадства пачало цікавіцца ўласнай гісторыяй, чаго нельга сказаць аб мінулых перыядах.

На заканчэнне канферэнцыі было пастаноўлена, што наступная сустрэча камісіі па справах дасканалення польскіх і беларускіх гістарычных падручнікаў будзе праведзена ранняй вясной у Мінску.

Пакідаючы Варшаву, беларускія госці асабліва падкрэслівалі глыбокі сэнс такога тыпу сустрэчаў.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

## НАШЫ ДЗЕЦІ ПРА НАС

*Працяг са стар. 5*

Мы доўга не разумелі, што яна цэлае сваё жыццё прысвяціла нам. Правільна ацанілі нашу мамку толькі тады, калі яна захварэла і мы былі змушаны пераняць яе абавязкі. Цяпер мы знаем, што наша мама — гэта наш скарб, іншай ніколі мець не будзем.

Мой бацька, Мікалай, таксама чалавек, які многа перажыў. Яму 60 гадоў. Ён многа працуе, займаецца гасападаркай. Жыццё ўжо стаміла яго, але ён далей працуе, хоча даць нам тое, чаго сам не атрымаў — магчымасць вучобы. У яго валасы ўжо сівыя, але я не лічу яго старым чалавекам. Ён чалавек вясёлы, любіць жартаваць. Я думаю, што гэтая вясёлая ўсмешка памагае яму жыць.

* * *

Нягледзячы на тое, што Павел (брат) вучыцца добра, а я не, што праз Пецю (брат) маю неўроз, што мама не дапускае мяне да кухні, а тата ўвесь дзень спіць, то я вельмі, вельмі люблю маю сям'ю.

Я вельмі люблю сваю сям'ю і ніколі не замяніла б яе на іншую. Думаю, што і мая сям'я не замяніла б мяне на нейкую другую Асю.

* * *

Мой тата не працуе нідзе і можам нават сказаць, што ён нічога не робіць, толькі бы развязваў крыжаванкі.

* * *

Мая бабуля — вельмі сучасная бабуля. На галаве носіць шлем, аглядае фільмы тыпу „Рамба", а замест расказваць унукам казкі, раздумоўвае аб новых планетах і галактыках.

Мая мама — добрая жанчына, хаця і больш думае пра вандраванне душ, чым пра догляд дзяцей і кухню. Таму і хутчэй навучылася выклікаць духі, чым лічыць да дзесяці.

Мой бацька — тыповы беларус і спартсмен. Ён спакойны на рабоце і баявы дома. Ужо ў дзесяцігадовым узросце ён атрымаў чорны пояс каратыста і займаўся рознымі спаборніцтвамі. Ён і цяпер рэгулярна трэніруецца дома. Так, што паламаныя сталы і крэслы ў нашай хаце гэта звычайная рэч.

Мая малодшая сястра Агнешка змалку палюбіла музыку. Яна вучыцца спяваць і іграць на скрыпцы. А вынік такі, што ўсе члены маёй сям'і крыху глухаватыя.

Найбольш нармальным у нашай сям'і з'яўляецца сабака.

* * *

Мая сям'я нетыповая. Складаецца яна з трох асоб: бабулі, таты і мяне. Мама з маім братам не жывуць з намі, бо мае бацькі разведзеныя.

Галоўнае месца ў нашай сям'і займае тата. Гэта ён мяне ўтрымоўвае, стараецца, каб мне нічога не бракавала, накіроўвае ў жыцці на правільную дарогу і з'яўляецца маім праўдзівым сябрам, якому заўсёды можна расказаць пра свае штодзённыя клопаты. І менавіта ў гэтым нетыповасць маёй сям'і, бо ў большасці сем'яў дзецьмі займаюцца маці.

У час навучальнага года тата заўсёды паўтарае: „Цяпер тваім найбольшым абавязкам ёсць навука, а паможаш мне крышку на канікулах".

Мой тата не п'е, не курыць і мне такое жыццё падабаецца.

| | | |
|---|---|---|
| Imię i nazwisko prenumeratora, adres | Imię i nazwisko prenumeratora, adres | Imię i nazwisko prenumeratora, adres |
| ........................................ | ........................................ | ........................................ |
| ........................................ | ........................................ | ........................................ |
| ........................................ | ........................................ | ........................................ |
| Prenumerata na ....... kwartał ❑ | Prenumerata na ....... kwartał ❑ | Prenumerata na ....... kwartał ❑ |
| w ilości ...... egz. | w ilości ...... egz. | w ilości ...... egz. |
| Kontakt w Polsce (dotyczy prenumeraty zagranicznej) | Kontakt w Polsce (dotyczy prenumeraty zagranicznej) | Kontakt w Polsce (dotyczy prenumeraty zagranicznej) |
| ........................................ | ........................................ | ........................................ |
| ........................................ | ........................................ | ........................................ |

**АД РЭДАКЦЫІ:**

Рэдакцыя "Нівы" з глыбокім жалем паведамляе, што адзін з аўтараў гэтае навуковае распрацоўкі, Марцін Юр, пры даследаванні тэхнатронных зданяў на Беларускім тэлебачанні, забыўшыся на тэхніку бяспекі, увайшоў у сціслы кантакт з невядомым навуцы прывідам, у выніку чаго ў даследчыка наступіла часовае (спадзяемся) памутненне розуму. Лекары ўратавалі маладое жыццё Юра і запэўнілі рэдакцыю, што ён будзе жыць. Але цяперашні стан здароўя Марціна не дазваляе яму працаваць, і таму наступны раздзел – „Гістарычныя здані" — Францішак Хлус напісаў ліючы слёзы, у жальбе і самоце.

Рэдакцыя запэўнівае, што будзе змяшчаць бюлетэні аб стане здароўя пацярпелага штомесяц. Спадзяемся, што хвароба не будзе працяглай, і Марцін Юр яшчэ не раз напалохае чытачоў сваімі жахлівымі апавяданнямі.

„Ніва"

# ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(Працяг; пачатак у н-ры 40 за мінулы год)*

## ГІСТАРЫЧНЫЯ ЗДАНІ

На працягу стагоддзяў Беларусь зведала шмат гнюсных істотаў, але не ўсе яны, на шчасце, мелі ўплыў на ход гістарычных падзеяў. Зданяў, якія б мелі гістарычную каштоўнасць, зафіксавана няшмат, але яны ўсё ж існуюць. Пачваразнаўцы вывелі дзве версіі тлумачэння іх існавання. Паводле першай, якой прытрымліваецца сектар вывучэння паранармальных з'яваў Інстытута пачварагадоўлі і зданезнаўства Акдэміі Навук, здані — гэта душы памерлых людзей, якія пры жыцці не выканалі нейкай важнай справы і з гэтае прычыны засталіся на зямлі да поўнага яе выканання. Цікавую версію вылучыла нефармальная навуковая суполка „Тутэйшыя пярэваратні": згодна з ёю, здані — гэта душы грэшнікаў, і такія чорныя, што ім не знайшлося месца не толькі на небе, але і ў пекле.

Пытанне генезісу і існавання гістарычных зданяў застаецца канчаткова нявырашаным — абодва бакі вылучаюць на карысць сваім версіям важкія навуковыя аргументы і, здаецца, кожны па-свойму мае рацыю. Каб спраўдзіць абедзве версіі, трэба ўсталяваць з якой-небудзь зданню сталы навуковы кантакт, але да сёння ўсе спробы даследчыкаў зрабіць гэта канчаліся жахліва — ці пакутніцкае смерцю ці, у лепшым разе — незваротным вар'яцтвам навукоўца. Шмат іх паклала свае маладыя жыцці на алтар навукі, але таямніцы гістарычных зданяў так і засталіся неразгаданымі...

### ЧОРНАЯ ДАМА НЯСВІЖСКАГА ЗАМКА

Ці не кожны беларускі замак і палац мае свайго прывіда — Чорную ці Белую Даму. Але сапраўды гістарычнай зданню можна назваць толькі Барбару Радзівіл, вядомую як Чорную Даму Нясвіжскага замка.

Гэты прывід па загаду караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста выклікаў папулярны ў тыя часы экстрасэнс, спірыт, чарнакніжнік і астролаг пан Твардоўскі, тагачасны папярэднік Кашпіроўскага. У часе наладжанагаім спірытычнага сеанса ў замкавае зале з'явілася чорная-чорная постаць, у якой прысутныя адразу ж пазналі нядаўна памерлую жонку манарха. Жыгімонт, які вельмі пакутаваў пасля смерці Барбары, кінуўся да яе з ляментам „Басенька, мая Басенька!.." і хацеў утрымаць, але здань адразу ж знікла — ад яе засталася адно жменька попелу пасярэдзіне залы.

Гэты факт агульнавядомы, пацверджаны аўтарытэтнымі крыніцамі і таму не падлягае дыскусіям нават сярод скептычна настроеных навукоўцаў. Але мала хто ведае, што адбылося амаль пасля чатырохсот гадоў пасля таго здарэння.

У 1944 годзе пасля таго, як Нясвіж пакінулі нямецкія акупанты, у горад увайшлі не лепшыя агрэсары — Чырвонае Войска. Радавы замак Радзівілаў сваёй прыгажосцю прывабіў азіяцкіх дзікуноў і, пэўна, з тае прычыны генерал Жукаў размясціўся ў ім са сваім штабам. Савецкія афіцэры, быццам бы пераняўшы эстафету гітлераўцаў, паводзілі сябе ў замку, як на акупаванае тэрыторыі — спярша яны разрабавалі тое, што не паспелі разрабаваць фашыстоўскія папярэднікі, пасля чаго іх агрэсія скіравалася ў цалкам натуральным для варвараў кірунку. Яны падмалёўвалі выявам продкаў старажытнага беларускага роду вусікі ды рожкі, стралялі ў іх з пісталетаў. Асабліва вабіў дзікуноў замкавы парк, надзіва прыдатны, на іх думку, каб гадзіць на яго алеях і гвалціць пад векавымі дрэвамі мясцовых дзяўчатак.

У апошнім найбольшай неспатольнасцю вызначаўся контрразведчык „СМЕРШа" („СМЕРць Шпіёнам") маёр Х., надзіва хцівы фацэт з Сібіры. Ён неаднаразова пахваляўся, што не прапусціў аніводнае паненкі ад чатырнаццаці да шасцідзесяці гадоў ва ўсёй акрузе. Аднойчы, вяртаючыся пасля начных расстрэлаў праз замкавы парк, хцівы маёр, вырашыўшы задаволіць малую патрэбу, зайшоў за вялікае дрэва і, расшпіліўшы галіфэ, заўважыў непадалёку ад сябе чорную жаночую постаць, якая падалася яму незнаёмай. Зрабіўшы сваю справу, узрадаваны контрразведчык з чэлясам напагатове пайшоў на даму, але тая зусім нечакана крочыла насустрач — здавалася, яна сама прагнула быць згвалтаванай сібіраком. Маёр Х. паваліў жанчыну пад дрэва, і толькі здзейсніўшы з ёю палавы акт, з жахам заўважыў, што партнёрка ператварылася ў жменьку попелу, гэтак жа сама, як і прадмет ягонай мужчынскай годнасці.

Наступнае раніцы контрразведчык, кіруючыся пачуццём партыйнага доўгу, а таксама жадаючы апраўдацца ў вачах начальства, у падрабязным рапарце напісаў, што меў палавыя стасункі за зданню. Але тут маёра чакала прыкрая неспадзяванка: па-першае, начальства палічыла, што Х. захварэў на нейкую цяжкую форму венерычнае хваробы і цяпер хоча выкруціцца, але гэта ў вачах начальства было б драбязою, каб не паведамленне маёра пра здань; кіраўніцтва „СМЕРШа" моцна раззлавала, што контрразведчык, выхаваны ў канонах ленінска-сталінскага матэрыялізму, верыць у прывіды прадстаўнікоў феадальна-эксплуататарскіх класаў. Праз некалькі дзён сібірак, асуджаны за антысавецкую агітацыю і шпіянаж на карысць Вялікага княства Літоўскага, ужо не маёрам, а звычайным зняволеным ехаў бітма набітым таварным вагонам у адваротны фронту бок — на сваю гістарычную радзіму. Але да самай смерці — а загінуў Х. у 1949 годзе, прыціснуты бервяном на лесапавале — ён так і не мог бязбольна спраўляць сваю малую патрэбу, не кажучы ўжо пра іншыя...

З гэтай невялічкай, але павучальнай гісторыі вынікаюць, як мінімум, дзве высновы — па-першае, яна сведчыць, наколькі небяспечнымі для жыцця, здароўя і кар'еры контрразведчыка могуць стаць пазашлюбныя палавыя стасункі, а па-другое — яшчэ раз пераконвае, што трапіўшы на чужыну, трэба паважліва ставіцца не толькі да тамтэйшых помнікаў гісторыі і культуры, але і да мясцовых зданяў — хай нават і эксплуататарскіх класаў...

Падрыхтаваў **ФРАНЦІШАК ХЛУС**

*(працяг будзе)*

# КРЫЖАВАНКА



**ГАРЫЗАНТАЛЬНА:** 3. прэснаводная рыба, 8. глухі лес, аблог, 9. еўрапейская краіна, 10. першы цар Ізраіля, 11. дзяржава на склонах Гімалаяў, 13. польская пісьменніца, звязаная з Гродзеншчынай, 15. дзяржава, якая паўстала ва ўсходняй частцы Рымскай імперыі, 16. рэзерв, 20. шпіёны і дыверсанты, 22. жыхарка Варны, 23. прыток Нёмана, 27. горад на Гродзеншчыне, 29. від, гатунак раслін або свойскіх жывёл, 30. кайданы, 31. пасудзіна для зачэрпвання, 32. дзяржава на поўдні Афрыкі, 33. полымя, 34. падатак у Сібіры і Паволжы.

**ВЕРТЫКАЛЬНА:** 1. планета, 2. колішняя зброя; у казакоў — сімвал улады, 4. булачны выраб у выглядзе кальца, 5. Понцій, іудзейскі пракурор, які абмыў рукі, 6. Паўночная і Паўднёвая ва Усходняй Азіі, 7. прыстасаванне для ўтрымання прадмета пры апрацоўцы, 12. месяц, 14. іржышча на жытнім полі, 16. у роце, 17. інструмент для разрэзвання, 18, 19 — канечнасць, 21. габляванне, 24. горад у ЗША, 25. расліна, чаранкі якой ужываюцца ў ежу, 26. выспа ў цэнтры Філіпінскага архіпелага, 27. класік беларускай літаратуры, 28. фруктовая гарэлка паўднёвых славян.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 46 нумара:** суполка, палатно, пасталы, запруда, дзераза, парасон, чаранок, параход, далакоп, асколак, разлога, парадак.

Кніжку высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.




Дарагі Астроне! Сардэчна цябе вітаю, жадаю дабра, а звяртаюся з просьбай. У выніку маіх навуковых доследаў мне стала вядома, што сны заўсёды сняцца адэкватна да разумовага ўзроўню чалавека: разумным сняцца сны разумныя і больш складаныя, каб папаразгадваў, а дурням — дурныя, але затое простыя. Але хопіць вучыць вучонага.

Дык вось прыснілася мне нядаўна, што сустрэў я на вуліцы калегу, які мяне перапужаў, што дзялянку, на якой стаіць мой гараж, выкупіў нейкі бізнесмен. Гаварылі мы ні то ў ягоным аўтамабілі, ні то ў маім; паказвалася сонейка, набягалі хмары і часам пакрапваў цёплы дожджык, але толькі хвілінку. Калега паказаў мне дом, у якім жыве бізнесмен, і сказаў, што яго кватэра 72, а дом нумар 70, калі я не забыў. О, якраз пайшла яго жонка, дадаў.

Я ўвайшоў у пад'езд і толькі паставіў нагу на лесвічную ступень, як зверху па той жа лесвіцы збег чорны вялікі сабака... Не, мо нат не чорны, а цёмна-шэры, і палізаў мне правую руку, якой я ўзяўся за поручань. Я крыху спалохаўся, каб не ўкусіў, і забраў руку. Ён лізнуў яе яшчэ раз і пабег наверх, а я за ім. Але не зайшоў я высока і прачнуўся, не дайшоўшы да кватэры нумар 72. Зрэшты, ніякіх лічбаў я там больш не бачыў.

Просты гэта сон, але я і так яго не адгадаю, бо... лічу на цябе. Ты ж усё ведаеш.

З глыбокай пашанай
Твой Вася, Уладзіміраў сын

Даражэнькі Вася, Уладзіміраў сыне! Твой сон на пагранічны рэчаіснасці. Сёння такое здараецца даволі часта на яве. А што там гаражы! Я маю грошы, дык сабе купляю што хачу і раблюся бізнесменам. Не падабаецца, што раней яйкі каля крамы прадаваў?! Мо неўзабаве мяне ў ручку цалаваць будзеш, галадранец ты сякі-такі.

Такая рэчаіснасць — і такі твой сон. Але нават, калі і будзеш мець нейкія праблемы, дык дапаможа табе іх перадолець нейкі прыяцель, быццам той сабака, які двойчы палізаў тваю руку і павёў цябе наверх, а ты пайшоў за ім. Так што, думаю, баяцца няма чаго.

**АСТРОН**




*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**КУЦЦЯ**

**Пшанічная з макам**

Прадукты:
*40 дэкаў пшаніцы,*
*1 шклянка маку,*
*10 дэкаў мёду.*

Зерне пшаніцы перабраць, памыць, намачыць на некалькі гадзін у халоднай, гатаванай вадзе, каб набрыняла, пасля чаго зварыць яго ў той самай вадзе. Мак заліць кіпетнем, астудзіць, адцадзіць, прапусціць праз мясарубку. Дадаць мёд і ўсё расціраць да белага колеру. Адцэджаную пшаніцу перамяшаць з макам і мёдам. Калі куцця атрымаецца занадта густая, можна даліць крышку летняй, гатаванай вады.

**Рысавая**

Прадукты:
*50 дэкаў рысу,*
*10 дэкаў салодкага міндаля,*
*1/2 шклянкі цукру,*
*20 дэкаў разынак,*
*цынамон (карыца),*
*цукар для пасыпання.*

Рыс заліць халоднай вадой, давесці да кіпення, адцадзіць на сіце, спаласнуць халоднай вадой. Ізноў заліць вялікай колькасцю халоднай вады і варыць, не мяшаючы, пакуль рыс не стане мяккі. Тады зліць ваду, рыс астудзіць. У халодны ўжо рыс дадаць змелены міндаль, разынкі і карыцу (цынамон). Усё вельмі добра перамяшаць. Палажыць у місачку, пасыпаць цукровай пудрай.

Падаваць з ягадным ці фруктовым кісялём.

**ГАСПАДЫНЯ**





**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранович (галоўны рэдактар), Ян Мордань, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1994 r. upływa 20 lutego 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką od 1.01.1994 r. wynosi 7000 zł., a kwartalnie - 91000 zł. (jeżeli nie zdrożeją koszty wysyłki pocztą). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# НІЎКА

## СЕНТЭНЦЫІ

Выпадак — відушчы сляпы.

* * *

Праўда ў вочы коле, бо ідзе па простай.

* * *

Гаворка маланкі сціслая і красамоўная.

* * *

Кветкі, раздзертыя паміж каханнем і эгаізмам, вянуць.

* * *

Вяршыняй вяршыняў з'яўляецца міф аб асаблівасці пасрэднага.

**БАРЫС РУСКО**

## ЯК ЛЮДЗІ ГАВАРЫЦЬ НАВУЧЫЛІСЯ

А было гэта так. Упалявалі нашы далёкія продкі маманта, спяклі на вогнішчы, з'елі і сядзяць ля пячоры. Сытыя, задаволеныя, а гаварыць не ўмеюць. Тады адзін выціснуў праз зубы: *ба*, другі — *бу*, трэці — *бы*. Атрымалася :

— *Бабу бы...*

**Падслухаў Янка Ляўкоўскі**

## НАВАГОДНІ СОН

Прачнуўшыся навагодняй раніцай, жонка кажа мужу:

— Ведаеш, прыснілася, што ты падараваў мне ля святочнай ёлкі прыгожанькае футра. Што б гэта магло азначаць?

— Хутка даведаешся, — з таемным выглядам паабяцаў муж.

А назаўтра ён вярнуўся дадому з пакункам і з усмешкай паднёс яго жонцы. З заміраннем сэрца тая разгарнула паперу і ўбачыла кнігу, на вокладцы якой было напісана: „Нашыя сны і як іх разгадваць".

## АДГАДАНКА

На навагодні баль прыехалі ў Беласток госці з цэлага ваяводства. У гасцініцы „Пад Млечным Шляхам" прапісалася 20 чалавек. Вось іх прозвішчы: **Арканаў, Баўдзула, Вамоліха, Ваўліська, Вудароб, Вясолуха, Жабелева, Журса, Каласок, Кардога, Кікрын, Ляшлічэк, Невоцюх, Праслусь, Рунцэ, Рынацкі, Цытонік, Чылімецый, Шарчоха і Шывік**.

Парцье гасцініцы, паглядзеўшы на гэтыя прозвішчы, заўважыў, што калі пераставіць літары, то з прозвішчаў атрымаюцца назвы гмін, з якіх прыехалі ўдзельнікі балю.

Падумайце і адгадайце, з якіх мясцовасцяў прыехалі згаданыя госці. Сярод тых, якія на працягу месяца адказ прышлюць у рэдакцыю, разыграем кніжную ўзнагароду.

**(ш)**

## ШТО ТАКОЕ З ЛЮДЗЬМІ?..

— Ужо зусім здурэлі людзі!

— А то ж чаму?!

— Як гэта — „чаму"? У нядзельку я пасля службы ў царкве пайшла да сястры. Не было яе сёння ў царкве, а заўсёды ж хадзіла. Я жыву ў другой вёсцы, і вельмі рада, калі прыйдзецца сястру спаткаць у царкве. Пагаворым пра сямейныя справы, і разыходзімся. Яна ідзе дадому, а я еду да сябе, пяць кіламетраў... Не ўбачыла яе, то й падумала, што яна захварэла. Заходжу да яе, а там сядзяць ейныя ўнукі, прыехалі з Беластока. Прывезлі „відэву", паказваюць з касеты фільмы. Каб якія людскія, то можна было б пагладзець, палюбавацца, але такія — то дальбо, не! Такая поскудзь, кахаюцца голыя, дый яшчэ баба з бабай, а мужык з мужыком!!! Цьфуй! Божа мілы, што гэта такое парабілася, каб такое выдумоўваць ды паказваць! То я закрычала: „Ці ты здурэла, Танька, такое ў хаці трымаці?!" „Чаму ты так дзівішся?" — пытаецца тая. „Як гэта — чаму?! У царкву не пайшла, а такое свінства тут глядзіш?! Такія дурноты?" „Гэта не дурноты! — абурыліся Таньчыны ўнукі, — гэта ёсць жыццёвая праўда. Гэта ёсць секс, а без сексу ані кроку. Вы ж, бабо, да сексу таксама дачыненні мелі, іначай нас усіх тут на свеце не было б!". Мая сястра смяецца, а мне бы хто ў морду даў: такі смургель, а так да мяне, старое, азываецца! „Праўду кажаш, хлопча, — кажу яму несваім голасам, — аднак усё павінна быць па-божаму. Да шлюбу я з хлопцам не спала. Як пайшла замуж, то і дзеці былі". А Таньчыны ўнукі тады ў смех! „Перастань, Волька, — кажа мая сястра. — Цяпер зусім іншыя часы насталі. Кожны робіць, як хоча. Нават парнаграфію могуць глядзець людзі, калі ім гэта даспадобы". „Няхай і так, але хоць не тады, калі ў храме багаслужба!" — не здавалася я. „Ай, раз не пайшла, то ці свет узяў ды заваліўся? А фільмы — як фільмы!"

Я, не развітаўшыся, пайшла дадому.

**АЎРОРА**

## У СВЕЦЕ ЗВЯРОЎ

П'яны заяц лёг на мяжу і заснуў. Згледзелі яго два ваўкі і пачалі спрачацца, каторы мае яго з'есці, пасля пабіліся і пазабіваліся насмерць.

Прачнуўся заяц і бачыць нежывых ваўкоў:

— Няхай ліха возьме гэтую гарэлку, з-за яе калісьці цэлы лес развалю.

* * *

Ляціць камар і голасна бзыкае:

— Ніколі больш не буду гвалтаваць светлячкоў!

— Чаму? — пытаецца другі.

— Хвіліну назад памыліў аднаго з іскрай ад паравоза.

* * *

Леў склікаў сход звяроў. Жаба, якая сядзела ў першым радзе, паўтарала кожнае яго слова:

— Сабраліся мы сюды каб абмеркаваць...

— Сабраліся мы сюды каб абмеркаваць...

— ... усе справы, звязаныя з нашай дзейнасцю...

— ... усе справы, звязаныя з нашай дзейнасцю...

— Няхай хтосьці забарэ адсюль гэтае зялёнае паскудства! — не вытрымаў у канцы леў.

На гэта жаба:

— Забярыце адсюль кракадзіла!..

* * *

Мікалай, які любіў здорава выпіць, меў папугая, таксама п'яніцу і яны часта сварыліся. Аднойчы Мікалай сказаў папугаю:

— Калі яшчэ раз вып'еш маю гарэлку, то ўсё пер'е з хваста павырываю!

Вярнуўшыся з працы, пабачыў, што бутэлька ўжо пустая ляжыць, а папугай пачынае вырываць сабе пёры, гаворачы:

— Навошта яны мне патрэбныя?..

* * *

Ідзе заяц лесам і бачыць у кустах бутэльку гарэлкі.

— О! Бутэлька гарэлкі! — уцешыўся, узяў яе і пайшоў далей.

Убачыла яго лісіца:

— О! Бутэлька гарэлкі і закуска! — узрадавалася і пабегла за ім.

Убачыў іх воўк:

— О! Бутэлька гарэлкі, закуска і рудая любоўніца!

Пабег за імі.

Убачыў іх са сваёй бярлогі мядзведзь:

— О! Бутэлька гарэлкі, закуска, рудая любоўніца ды і ёсць яшчэ каму ў морду даць!..

* * *

На беразе Ніла сустракаюцца два кракадзілы:

— Як прайшло сёньняшняе паляванне?

— З'еў трох неграў. А ты?

— З'еў аднаго савета.

— Не веру. Хукні!..

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Надыходзяць Каляды, свята, у якое людзі даруюць сваім блізкім ўсе віны, забываюцца на сваркі і непаразуменні, бо Каляды — гэта свята згоды і міру. І ў сувязі з гэтым я б хацела напісаць сёння пра гісторыю свайго кахання, а фактычна пра майго мужа. Бо ўся яго асоба вельмі падыходзіць да гэтага свята.

Зналіся мы ўсяго чатыры дні. Я — з Беласточчыны, ён — з супрацьлеглага канца Польшчы. Сустрэліся пад Варшавай на курсе-канферэнцыі. На гэтых курсах, ведаеш, пасля заняткаў людзі ахвотна бавяць час у кампаніі. Так было і з намі. Ён прыглянуўся мне адразу, відаць было, што і я яму неабыякавая. Шкада было часу — мы перасталіся з ім у першы ж дзень. Вечарам сустрэліся ў кавярні, дзе была вялікая кампанія, а пасля ён прыйшоў у наш пакой, а сяброўка мая пайшла з яго калегам у іншы пакой. Я ў свае трыццаць гадоў ужо не рабіла ніякіх праблем з гэтага, нават лічыла, што, пэўна, застануся ў старых дзеўках. Але гэты хлопец мне сапраўды спадабаўся.

Чатыры дні прайшлі як адзін міг. Я была непрытомная ад шчасця. Усе свабодныя ад заняткаў хвіліны мы праводзілі разам, а практычна мы не вылазілі з пасцелі. Сяброўка, з якой я жыла ў пакоі, нават пагневалася на мяне, бо ёй так, як мне, не пашанцавала, дык было адной сумна.

Надышоў час расстання. Я была вельмі сумная, што мы раз'язджаемся на такую адлегласць. Фактычна лічыла, што ніколі мы ўжо не сустрэнемся. У жыцці ж амаль заўсёды так бывае, што кахаеш таго, хто блізка.

Але я памылілася. Пазваніў мне, як толькі прыехаў. Пасля нейкі час было маўчанне, і я ўжо думала, што гэта канец. Пазваніла я яму праз паўтара месяца і на ўсякі выпадак паведаміла яму, што была ў лекара і ён сцвердзіў маю цяжарнасць. Я нават і не падумала, што хлопец гэту вестку ўспрыме так, як успрыняў. Думала, проста прыме да ведама, што будзе ў яго дзіця. Бо я нават адзін момант не думала, што пазбудуся цяжарнасці.

А ён адразу сказаў: „Ну, дык робім вяселле!" І мне гэтыя словы былі, як гаючы бальзам на сэрца. І пасля ўжо толькі мама рабіла ўвагі: „Колькі ж ён грошай на тэлефоны выдае!" Праўда, аж да шлюбу не прыехаў у Беласток. Але зарабіў сам на скромане вяселле.

Праз пяць месяцаў нарадзілася ў нас дачушка. А пасля і сынок. Жывем у Беластоку. Мае бацькі вельмі палюбілі майго мужа, хаця ні разу не бачылі яго перад шлюбам. І таму я пішу табе, Сэрцайка, пра майго мужа пры гэтым святе. Вось менавіта пражылі мы з ім ужо пятнаццаць гадоў і не здарылася ніводнага дня, каб ён не адзываўся да мяне. Бывае так, што мы перагаворымся, бо ў нечым не згаджаемся, а я, надуюся і маўчу, а ён пойдзе, аберне ўсё ў жарт, або абдыме мяне — і зноў згода.

Не ўяўляеш сабе, Сэрцайка, як мне пашанцавала ў жыцці. Я вельмі ўдзячна майму мужу за ўсё, што ён мне зрабіў. Бачыш, а ўжо ж я думала, што застануся ў дзеўках, ды нават не прымушала яго і не прасіла, каб ажаніўся, тады, калі зацяжарыла. Сам гэта зрабіў! Дзякуй Богу, што ёсць яшчэ такія людзі.

**Клаўдзія**

Клаўдзія! Думаю, што пашанцавала не толькі табе, але і яму. Ты аддалася яму, калі ён табе спадабаўся, але не накідалася пасля і не прымушала да жанячкі, калі зацяжарыла. Такія дзяўчаты хлопцам імпануюць. Ён, праўдападобна, не быў у абавязку, а хацеў быць з табой.

Ты захапляешся ім, яго адносінамі да цябе, і ў гэтым таксама яго шчасце. Часамі мімалётнае знаёмства можа перарадзіцца ў трывалае шчасце. Многае тут залежыць ад нас саміх.

**СЭРЦАЙКА**